№ 21 (762) 6 чэрвеня 2012

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

П Е Р Ш А Я   Б Е Л А Р У С К А Я   Г А З Е

Заснаваная ў лістападзе 19… …ўленая ў маі 1991. Выда… …ае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, …



## Футбол побач

Ва Украіне і Польшчы стартуе Еўра-2012. Каляндар і час гульняў. Старонка 9.



## Ці паўторыцца крызіс?

Што чакае Беларусь пры нафце, таннейшай за 100 даляраў? Старонка 3.

# Каб прыязджала больш гасцей

Трэба прадаваць сядзібы, вёскі і не саромецца **сэкс-турызму**, мяркуе чыноўнік Мінспорту. **Старонка 8.**



**Скульптура і насценны малюнак на адной з аграсядзіб Браслаўскага раёна.**

Тэндэнцыі

## Дэпутат: Заробку ў 3 мільёны досыць для сям'і з дваімі дзецьмі

Святлана Шылава заклікала **нараджаць больш**.

Намесніца старшыні пастаяннай камісіі палаты прадстаўнікоў па ахове здароўя, фізічнай культуры, справах сям'і і моладзі Святлана Шылава ў эфіры перадачы «Не толькі жанчына ведае» на тэлеканале «Беларусь-1» вызначылася некалькімі неадназначнымі заявамі.

«Чаму французы нараджаюць не менш за трое дзяцей?» — задала яна рытарычнае пытанне. «Можа, заробкі іншыя?» — зрэагавала вядучая. «Ну, калі мы з вамі зараз пачнём лічыць эканамічны складнік — ён не паўплывае. Я магу сказаць, што я вырасла ў вялікай сям'і. У мяне 4 старэйшыя браты. Нашы бацькі далі нам вышэйшую адукацыю», — расказала дэпутат.

«Я мяркую, 3 мільёнаў для таго, каб выхоўваць у сям'і дваіх дзяцей, — дастаткова. Быў перыяд 1990-х гадоў, калі наогул нічога не было, і ў нас у сям'і было трое дзяцей і траіх выхоўвалі. Навошта круты тэлефон?» — лічыць Шылава.

«Шматдзетная сям'я — гэта маленькая дружная ячэйка, дзе ёсць паразуменне, дапамога і падтрымка. А вось адно дзіця ці два — гэта ўсё ж такі ёсць выпрацоўка эгаізму. Калі я адзін, то ўсё для мяне.

І потым вырасце дакладна такая ж маладая мама, вырасце такі ж малады тата, які скажа: «Не, дастаткова, а то ў мяне не будзе «Мерсэдэса».

Працяг на старонцы 2.

Грамадства

### Як жывецца мінскаму бамжу

Ад бедных Мікола грошай не бярэ. **Старонка 5.**



Гаспадарка

### Што будуецца на Прытыцкага?

Суперпраекты сталіцы. Каля гэтай дарогі жыве большасць мінчукоў. **Старонка 6.**



Культура

### З яго працаў выжываюць адзінкі

Графіціст Dream стварае на сценах шэдэўры. **Старонка 11.**



Пошта

### Для каго прыдумалі Гарадскія лініі?

Ці зменіцца расклад электрычак? **Старонка 12.**



# Дэпутат: Заробку 3 млн досыць для сям’і з дваімі дзецьмі

Працяг са старонкі 1.

Або: «У мяне не будзе лішняга норкавага футра», — упэўненая Шылава.

Парыруючы заўвагі, што заробку можа не хапіць на памперсы для ўсіх, намеснік старшыні пастаяннай камісіі палаты прадстаўнікоў падкрэсліла: «Я вам магу сказаць як доктар: нават — не абавязкова памперсы. І між іншым — гэта не вельмі добра для рэпрадуктыўнага здароўя хлопчыка і дзяўчынкі. Гэта я вам кажу як спецыялістка».

«Трэба ў сям’і выхоўваць не спажыванне, што ў мяне круты тэлефон або крутая кофтачка, а каб гэта было чысцей, маральней і гэтак далей», — упэўненая Шылава. Таксама яна параіла мужчынам, якім не хапае грошай на дзіця, знайсці другую працу.

Што тычыцца бюджэту пражытковага мінімуму, які складае зараз крыху больш за 700 тысяч рублёў, то Шылава заўважыла, што ён не забяспечвае шыкоўнага жыцця, але не дасць памерці.

Паводле начальніка ўпраўлення народа-насельніцтва, гендарнай і сямейнай палітыкі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Марыны Арцёменкі, большасць сем’яў у Беларусі маюць адно дзіця — 65,8%. Двух дзяцей маюць 28,9% сем’яў, трох і больш — прыкладна 5%.

**Паводле Dengi.onliner.by**



**Святлана Шылава**

нарадзілася 18 красавіка 1961 у вёсцы Ульянавічы Сенненскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут, аспірантуру па спецыяльнасці акушэрства і гінекалогія. Кандыдат медыцынскіх навук, дацэнтка, доктарка вышэйшай катэгорыі. Замужам, выхавала траіх дзяцей.

## Пакаёўка мінскай гасцініцы знайшла пад падушкай 20 тысяч даляраў

**Вярнула гаспадару — ён падарыў ёй сто расійскіх рублёў.**

Такога ў гатэлі не здаралася ніколі. Звычайны пастаялец. Праўда, надта спяшаўся, згадвае персанал. Чакаць пастаялец не стаў і з’ехаў.

Пакаёўка Ларыса Дамасевіч кажа: «Калі я ўзялася за прасціну, выпала нешта падобнае на пояс. Я яго падымаю — цяжкі. Вузкі, доўгі. Я гляджу: нешта там зашыта».

У поясе было 20 тысяч даляраў. Ларыса патэлефанавала адміністратару — і гора-пастаялыца хутка адшукалі.

Акрамя «вялікага дзякуй», Ларысе Рыгораўне мужчына пакінуў 100 расійскіх рублёў (гэта прыкладна 25 тысяч рублёў).

Ларыса Дамасевіч кажа: «Хіба ў гэтым справа? Гэта мая праца. Любы чалавек на маім месцы так паступіў бы. А што тычыцца падзякі: а можа, гэта не яго грошы?»

Ёсць спадзяванне, што хоць адміністрацыя гатэля прэміруе сумленную работніцу.

**Паводле tio.by**

## Гіганцкія павукі невядомага навуцы віду выклікалі паніку ў Індыі

**Эколагі кажуць, што гэта можа быць невядомы від тарантулаў.**

Як паведамляюць мясцовыя ўлады, вялізныя павукі масава нападаюць на жыхароў паўночнага ўсходу Індыі.

Дзве ахвяры ўкусу памерлі ў раёне Тынсук’я. Улады кажуць, што пакуль незразумела, загінулі яны ад яду ці лячэння шаптуноў, якія рабілі надрэзы лязом, каб адвесці кроў з раны. Памерлыя былі крэміраваныя, і ўскрыцця правесці не ўдалося.

Спробы мясцовых лячыць балючыя пухіры ад укусаў могуць быць больш небяспечнымі, чым самі павукі. Яшчэ сямі ахвярам укусаў давялося даваць антыбіётыкі супраць інфекцыі пасля спробаў самалячэння.

Павукоў упершыню заўважылі каля месяца таму ў травяністых далінах Тынсук’і у густых джунглях на поўнач ад ракі Брахмапутра. Тамтэйшыя жыхары дзяжураць цяпер па начах каля хатаў і не гасяць святло.



Навукоўцы пакуль сумняваюцца, ці сапраўды павукі мутавалі. Яны не выключаюць, што гаворка ідзе пра ўкусы звычайных павукоў, а рэшту зрабіла хваля панікі.

**КаМ**

## Сцісла

**Памерла маці Юрыя Чыжа**

Вера Пятроўна была баптысткай, нарадзіла шэсць сыноў. Апошнія гады яна жыла ў Белаазёрску, куды яе забраў адзін з сыноў. Цікава, што бацька алігарха, Аляксандр Чыж, быў праваслаўным, а маці стала пратэстанткай. Двух старэйшых братоў Чыжа таксама няма ў жывых. Яўген Чыж памёр у пачатку года.

**Дзіця кінулася пад машыну**

Трохгадовае дзіця вырвалася з рук маці і трапіла пад машыну на пераходзе. Здарэнне адбылося ў аўторак, каля 13.30, на скрыжаванні вуліц Жыновіча і Матусевіча ў Мінску. Кіроўца іх прапусціў, але ў нейкі момант дзіця выпусціла руку мамы, пабегла назад і трапіла пад машыну, якая ўжо зноў пачала рухацца.

**140 000 абітурыентаў**

зарэгістраваліся сёлета на цэнтралізаванае тэставанне. Першае выпрабаванне — па беларускай мове — пройдзе 13 чэрвеня. 14.06 абітурыенты здадуць расейскую мову, 16.06 — біялогію, 17.06 — матэматыку, 19.06 — грамадазнаўства, 20.06 — хімію, 21.06 — сусветную гісторыю найноўшага часу, 23.06 — фізіку, 24.06 — гісторыю Беларусі, 26.06 — замежныя мовы, 27.06 — геаграфію. Усе выпрабаванні будуць пачынацца ў 11.00.

**Шакіра, Стынг і ABBA па-беларуску**

На сайце spiavaj.by з’яўляюцца пераклады сусветных хітоў. Гэта ініцыятыва беларускамоўнай моладзі. Кожны жадаючы можа даслаць і свой пераклад любімай песні. На сайце ўжо з’явіліся пераклады песняў Стынга, Брытні Спірс, Шакіры, Элтана Джона, Rammstein і пераможцы «Еўрабачання» Лорын — агулам ля 200 песняў. Да кожнай песні прыкладзены арыгінальны тэкст і спасылка на відэа на Ютуб, дзе можна пачуць, як гэтая песня мусіць гучаць.

**СГ**

**Самае чытанае на nn.by за 30 мая — 5 чэрвеня 2012**

1. Выпускніцы з 11 «А» — фотарэпартаж
2. «Дождь» паказаў сатырычны мультфільм пра Лукашэнку
3. Сусветныя рынкі абваліліся
4. Балгарскія выпускніцы сваімі сукенкамі пераплюнулі ўкраінскіх
5. Чаму спецназ грузіў дзяцей у аўтазакі на вуліцы Варанянскага
6. Школьныя абеды: у нас і ў іх
7. У новым роліку Мадонна загрымiравалася пад Лукашэнку — відэа
8. Якая самая крутая ў Беларусі прафесія?
9. Чыноўнік: Каб прыязджала больш гасцей, трэба прадаваць сядзібы, вёскі і не саромецца сэкс-турызму
10. Пра што дамовіліся Пуцін і Лукашэнка

# «Вітаю вас на вашай беларускай зямлі»

Вынікі **візіта Уладзіміра Пуціна** ў Мінск.

### Спазніўся на тры гадзіны

У беларускай сталіцы кіраўніка Расіі чакалі а 16 гадзіне. Лукашэнка прыехаў у аэрапорт, каб сустрэць высокага госця. Чакаўчакаў, а ў небе ўсё не з’яўляўся доўгачаканы самалёт.

У выніку давялося прачакаць амаль тры гадзіны. Адразу ж па прылёце кіраўнікі накіраваліся ў рэзідэнцыю Лукашэнкі «Заслаўе». Там некалі, дарэчы, прымалі і Кадафі. Вечаровыя перамовы і прэс-канферэнцыя.

На раніцу Пуцін усклаў кветкі да манумента на плошчы Перамогі. Пасля чаго паляцеў у Берлін. На дзяржаўным тэлеканале АНТ не без смакавання адзначалі, што ў Нямеччыну Пуцін таксама спазніўся.

### Самы блізкі саюзнік

З першага погляду відаць, што перамовы прайшлі ўдала. Пуціна Лукашэнка не абсыпаў кампліментамі, як Чавеса, але некалькі добрых словаў сказаў. Чаго хаця б вартая цытата: «Ад усёй душы вітаю вас на вашай беларускай зямлі».



**Так Пуціна сустракалі беларускія нацболы.**

Не дзіва, што ў заходнім свеце Беларусь усё часцей называюць то васалам, то пратэктаратам Расіі.

«Наўрад ці гэта была агаворка. Магчыма, Аляксандр Лукашэнка ў думках і на самай справе нарэшце развітаўся са сваім суверэнітэтам, якім ён так дэманстратыўна даражыў апошнія 18 гадоў. І зрабіў гэта таксама дэманстратыўна», — напісала газета «Камерсант» пра словы Лукашэнкі пра «вашую зямлю».

Што датычыць Пуціна, то ён назваў Беларусь не проста сябрам, а «асаблівым партнёрам». Была выказаная падзяка Лукашэнку за падтрымку інтэграцыйных працэсаў на постсавецкай тэрыторыі.

Увогуле, як напісала прэсслужба беларускага лідара: «Перамовы прайшлі ў атмасферы дружбы, узаемаразумення і высокага даверу».

### Паабяцалі АЭС і крэдыт, захацелі МАЗ

Пуцін прылятаў не з пустымі рукамі. Ён агучыў рашэнне аб выдзяленні Беларусі трэцяга траншу стабілізацыйнага крэдыту з Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС. Гэта 440 мільёнаў. Паабяцалі і чацвёрты.

Раней выдача гэтага крэдыту была замарожаная праз тое, што Беларусь не ідзе на рэформы ў эканоміцы. Цяпер выглядае, Расіі тыя рэформы ўжо не патрэбныя.



Пуцін асабліва вылучыў праект пабудовы беларускай АЭС, «які мае ўсе шанцы стаць найбуйнейшым у сучаснай гісторыі двухбаковых адносін».

Узамен расейцы ж хочуць стварыць холдынг «Росбелаўта» на базе КамАЗа і МАЗа. Раней лукашэнкаўцам неяк атрымлівалася адбіцца ад такіх прапановаў. На гэты раз будзе складаней.

### Крывасмок Кабякоў

«Столькі крыві ён у мяне выпіў за апошнія гады, а яго яшчэ да нас у Маскву даслалі, каб рэшткі ў мяне выпіць», — сказаў Пуцін пра Андрэя Кабякова, былога віцэ-прэм’ера і сённяшняга пасла Беларусі ў Маскве.

Дарэчы, кажуць, што ў рэзідэнцыі «Заслаўе» на чыстым паветры пуцінскую кроў сапраўды папілі — камары. А вось Лукашэнка да гэтага падрыхтаваны быў загадзя, яго не кусалі.

### Праводзілі аўтазакамі

Лукашэнка не адмовіў сабе ў задавальненні праводзіць Пуціна ў аэрапорце. Дарэчы, развіталіся з расійскім кіраўніком з аўтазакамі. Амаль як на акцыях апазіцыі, жартавалі журналісты.

Хто-хто, а апазіцыйная моладзь пасля таго, як Пуцін паляцеў, змагла ўздыхнуць з палёгкай. З турмы нарэшце адпусцілі «маладафронтаўцаў» і нацболаў. Баяліся, што тыя неяк падпсуюць акцыямі пратэсту праграму знаходжання расійскага лідара.

Нацболы такі запомніліся крэпкім расейскім словам у адрас Пуціна, але іх расцяжку паспелі своечасова зняць.

**Зміцер Панкавец**

# Хлопчык Арман стаў зоркай расійскага інтэрнэту

Ён расказвае, за што **не любіць Пуціна**.

Здымалі на відэа хлопчыка падчас акцыі расійскай апазіцыі 31 мая. 14-гадовы Арман Туганбаеў здзівіў многіх лагічнасцю сваіх выказванняў.

«Зараз робіцца тое, што вызначае маю будучыню. Я хачу жыць у добрай краіне. Рызыка ёсць вялікая, але іншая альтэрнатыва — я ўсё жыццё буду жыць пры нашым цару. Я спадзяюся, што нешта можна змяніць.

Краіна пакуль далёкая ад ідэалу, але трэба рабіць усё магчымае, каб яе прывесці да гэтага ідэалу. Які сэнс апускаць рукі і казаць «я за стабільнасць»? Гэта поўнае глупства, што мы адбіраем у людзей стабільнасць, як і тое, што ўсе мы купленыя Дзярждэпам ЗША.

Як бы людзям добра ні жылося, але калі парушаюцца правы, то гэта кепска і няправільна. Няправільна, калі людзей вінцілі.

Галоўнае — зламаць кепскую ўладу. Тое, як кіруе Пуцін, не дазваляе яму называць сябе прэзідэнтам Расіі, бо ён захапіў уладу і ўтрымлівае яе гвалтам».

**ЗП**



# Што чакае Беларусь пры нафце, таннейшай за 100 даляраў?

**Можа паўтарыцца крызіс** 2008—2009, але не такі моцны.

Канец мінулага тыдня адзначыўся ў Еўропе і Расіі абвалам фінансавых рынкаў. На трывожным фоне сітуацыі ў Грэцыі і банкаўскіх праблем у Іспаніі і Італіі масла ў агонь падлілі амерыканцы. ЗША апублікавалі свежыя звесткі пра беспрацоўе: яно дасягнула 8,2%, а новыя працоўныя месцы амаль не ствараюцца.

Але на Беларусь, якая знаходзіцца па-за біржавымі гульнямі, больш паўплывае іншае падзенне — за апошні месяц нафта патаннела на 20%. Барэль каштуе не больш за $100 і гатовы апускацца ніжэй за гэтую псіхалагічную мяжу. Удар па айчыннай эканоміцы можа прыйсці з боку Расіі. Усходні сусед жыве з нафтавых прыбыткаў, і іх змяншэнне прывядзе да дэфіцыту бюджэту. Прагнозныя дакументы расійскага ўрада разлічаныя з улікам таго, што кошт барэля нафты будзе складаць не менш за $117.

Цяпер расійцы перажываюць тое — рэзка вырас попыт на даляры, якіх у абменніках не стае. Памеру золатавалютных рэзерваў краіны пакуль што хапае, каб задаволіць попыт насельніцтва. Але літаральна за апошні тыдзень дэвальвацыя расійскага рубля склала 15%.

Што чакае беларускую эканоміку пры падзенні цаны на нафту ніжэй за $100 за барэль? Падобная сітуацыя ўжо была ў 2008—2009. Праўда, тады паліва патаннела са $140 ажно да $40. Гэта прывяло да крызісу, які справакаваў дэвальвацыю беларускага рубля на 20% і змяншэнне экспарту. Што будзе цяпер, калі нафта працягне таннець?

Эканаміст даследчага цэнтра ІПМ Аляксандр Чубрык мяркуе, што ўдар па эканоміцы краіны будзе слабейшым, чым у 2008, бо і

**За тыдзень дэвальвацыя расійскага рубля склала 15%**

цана нафты змяншаецца не так істотна, як тады. Акажа уплыў і той факт, што прыбытковасць перапрацоўкі нафты і так зменшылася за апошнія гады. Беларусь цяпер вяртае частку прыбытку ў расійскі бюджэт, і гэтыя плацяжы могуць зменшыцца.

Аднак па нашай краіне можа ўдарыць бумерангам крызіс у Расіі, дабрабыт якой істотна залежыць ад сусветных цэнаў на нафту і газ. Запавольванне росту ВУП у гэтай краіне і бюджэтны дэфіцыт можа прывесці да згортвання фінансавання многіх знешніх праектаў. Дапамога Беларусі ў такім выпадку адыдзе для расійскага кіраўніцтва на другі план.

Што да трываласці беларускага рубля, то яна таксама ў некаторай ступені аказваецца пад пагрозай праз магчымае скарачэнне выручкі за продаж нафтапрадуктаў. Калі Нацбанк будзе адміністратыўна трымаць курс валюты, у эканоміцы з’явяцца новыя дыспарытэты, калі ж кіраваць курсам будзе рынак, валюта пачне даражэць.

Ці варта чакаць, што патаннее бензін на запраўках? «Наўрад ці, — мяркуе Аляксандр Чубрык. — Кошт паліва ў Беларусі і так меншы, чым у Расіі». Патанненне нафты на сусветных рынках у такім выпадку дазволіць свабодна ўздыхнуць нафтаперапрацоўчым прадпрыемствам.

**Ягор Марціновіч**

# Пефціеў прадаў «Белтэхэкспарт»

**Мільярдэр спрабуе схавацца ад санкцый Еўрасаюза?**

Найбуйнейшы вайскова-тэхнічны холдынг Беларусі «Белтэх» зменіць свайго кіраўніка. Алігарх Уладзімір Пефціеў нібыта прадаў кантрольны пакет акцый расійцу Дзмітрыю Гурыновічу.

Пефціеў трапіў у чорны спіс Еўрасаюза як асоба, звязаная з Аляксандрам Лукашэнкам. Яго называлі галоўным кашальком беларускага рэжыму, і зарабіў ён свае грошы на гандлі зброяй з краінамі трэцяга свету. Украінскі часопіс «Дело» некалькі гадоў таму ацаніў багацце Пефціева ў мільярд даляраў.

У 2011 пад санкцыі трапілі тры кампаніі мільярдэра — «Белтэхэкспарт», «БТ Тэлекамунікацыі» і латарэя «Спорт-пары». «Белтэхэкспарт» быў заснаваны ў 1993. Спачатку кампанія з дазволу дзяржавы распрадавала зброю, якая засталася на тэрыторыі Беларусі пасля знікнення СССР. Потым заняўся рамонтам і мадэрнізацыяй савецкай вайсковай тэхнікі для трэціх краін, а таксама пастаўкамі ўзбраенняў, якія вырабляюцца ў Беларусі.

Другая порцыя санкцый супраць Пефціева была ўведзеная сёлета. Еўрасаюз забараніў сваім грамадзянам мець бізнэс-кантакты з яшчэ васьмю прадпрыемствамі, сярод якіх спіртзавод «Аквадзіў», інтэрнэт-правайдар «Дзелавая сетка» і некалькі кампаній з «Белтэх Холдынга» («Тэхнасаюзпрыбор», «Спецпрыборсэрвіс» і іншыя). Самому бізнэсоўцу тым часам забаранілі ўезд у Еўрасаюз.

Пефціеву, які амаль увесь час жыве на Мальце, гэта істотна замінала весці справы. Ён спрабаваў адмяніць рашэнне Еўрасаюза праз суд і нават быў гатовы заплаціць мільён даляраў адвакату, які здолеў бы выкрасліць яго з чорнага спісу. Усё марна.

Але цяпер Пефціеў, відаць, знайшоў спосаб «абяліць» рэпутацыю. Калі «Белтэхэкспарт» будзе мець іншага ўласніка, іншую назву, а магчыма, і іншую юрысдыкцыю (расійскую), у яго з'явіцца шанец выйсці сухім з вады.

Хто ж стаў новым уласнікам? Паводле афіцыйнага паведамлення кампаніі, Дзмітрый Фёдаравіч Гурыновіч — выпускнік і аспірант Расійскай акадэміі народнай гаспадаркі і дзяржаўнай службы пры прэзідэнце РФ (з адзнакай), уключаны ў кадравы рэзерв прэзідэнта РФ. Аднак яго імя не ведае ніводная пошукавая сістэма ў інтэрнэце, ён ні разу не фігураваў у навінах і не з'яўляецца заснавальнікам ніводнай юрыдычнай асобы. Нават у «кадравым рэзерве» Пуціна яго не знайшлося.

Разам з тым, як высветлілася, гэта рэальна існуючы чалавек. На пачатку 2000-х ён быў ні чым не адметным дарадцам Пефціева ў кампаніі Velcom. Апроч таго, паводле інфармацыі «Беларускага Партызана», Гурыновіч можа з'яўляцца пляменнікам старшыні Нацбанка Надзеі Ермаковай. Невядома, адкуль у інтэрнэт-сайта гэтая інфармацыя і ці праўдзівая яна.

Вайсковы аглядальнік Аляксандр Алесін у інтэрв'ю Радыё «Свабода» выказаў меркаванне, што адначасова з продажам холдынга маглі быць створаныя іншыя падобныя структуры, праз якія цяпер вядзецца пасярэдніцкі гандаль: «Белтэхэкспарт» — гэта шырма. Але калі яна неаднаразова засвяцілася ў санкцыях, яна ўжо не магла выконваць сваю ролю прыкрыцця паставак беларускай спецыяльнай маёмасці. Таму гэтую абалонку прадалі. І арганізавалі шэраг іншых структур такога ж кшталту, але якія яшчэ не засвечаныя».

**Ягор Марціновіч**

**Уладзімір Пефціеў**

Нарадзіўся ў 1957 у Бярдзянску (Украіна). Найбагацейшы прадпрымальнік Беларусі. Яму належыла кіраўнічая кампанія «Белтэх Холдынг», якая займаецца распрацоўкай, вытворчасцю і продажам узбраенняў і прадукцыі падвойнага прызначэння. Да нядаўняга часу таксама ўзначальваў тэнісную федэрацыю. Сям'я Пефціева жыве на Мальце.



Будынак «Белтэхэкспарта» знаходзіцца пад узмоцненай вартай і за высокім плотам.

## Смярдзючыя праблемы Ваўкавышчыны




**У рэгіёне адзін за другім выявіліся выпадкі траплення камунальных сцёкаў у вадаёмы.**

Найбольшы інцыдэнт адбыўся на тэрыторыі камунальнага сельскагаспадарчага прадпрыемства «Зара і К». Яшчэ ў студзені сайт Volkovysk.by апублікаваў фотаздымкі разліваў гною, што вывезлі на палеткі з фермаў «Зары». Каля адной з дарог утварылася цэлае смярдзючае «возера». Мясцовыя расказалі, што сюды жыжу злівалі проста з дарогі, калі трактар не мог заехаць на поле.

Публікацыяй здымкаў зацікавілася Ваўкавыская інспекцыя аховы прыроды. Кіраўніцтва аграрнага прадпрыемства атрымала папярэджанне, але на гэтым гісторыя не скончылася. Напрыканцы сакавіка ваўкавыскія інспектары зафіксавалі ў раёне комплексу «Субачы» і новай малочна-таварнай фермы «Калантаі» расцяканне гнаявых стокаў.

Тут ужо за справу ўзяўся Гродзенскі абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Мінпрыроды. Быў пацверджаны факт расцякання і забруджання зямлі.

У Ваўкавыскай інспекцыі аховы прыроды карэспандэнту «НН» расказалі, што ў выніку расцякання былі забруджаныя не толькі сельскагаспадарчыя землі, але і тэрыторыя ляснога фонду, прыдарожная паласа і ўчастак садовага таварыства. Шкоду ацанілі ў суму каля 700 мільёнаў рублёў. У такіх выпадках вынікі праверкі накіроўваюць у раённую пракуратуру, бо гаворка ідзе пра асабліва буйныя памеры шкоды.

### Народны кантроль

Пасля публікацыі «гнойнай» гісторыі на сайт Volkovysk.by пачалі звяртацца мясцовыя жыхары. Так стала вядома пра праблемы на каналізацыйна-помпавай станцыі ў вёсцы Косіна. Тут каналізацыйныя стокі выцякалі з перапоўненага калодзежа. Па словах мясцовых, яны траплялі ў меліярацыйны канал, а той звязаны з прыватным вадаёмам, у якім гадуецца карп. Пасля публікацыі інфармацыі на станцыі закіпела праца: пачалі мяняць рухавік і чысціць прылеглую тэрыторыю.

**Сямён Печанко**

## КДБ абвяргае інфармацыю пра адсочванне паездак за мяжу, але...

**«Такія меры будуць закранаць некаторых кіраўнікоў, каб абараніць гэтых людзей ад негатыўных аспектаў за межамі».**

У КДБ абвяргаюць інфармацыю аб тым, што спецслужбы адсочваюць паездкі на адпачынак за мяжу усіх кіраўнікоў сярэдняга і вышэйшага звяна дзяржустановаў.

Такая інфармацыя была распаўсюджана некаторымі інтэрнэт-рэсурсамі 4 чэрвеня. Нібыта ўсе, хто збіраецца на адпачынак у Турцыю, Егіпет ці нават Украіну, павінны напісаць заяву на імя начальніка з просьбай дазволіць ім выезд за мяжу.

«Той жа, хто ўжо з'ездзіў на адпачынак, піша другую заяву, у якой паведамляе, што ніхто яго не вербаваў, што сам адпускнік не раскрыў нікому сакрэтныя звесткі пра Беларусь і не ганьбіў родную краіну. Кантроль за напісаннем гэтых заяў праводзяць непасрэдна супрацоўнікі КДБ», — паведамілі інтэрнэт-рэсурсы.

Каментуючы гэтыя звесткі, начальнік цэнтра інфармацыі КДБ Аляксандр Антановіч заявіў: «Мяркуючы па ўсім, такая інфармацыя вырвана з кантэксту. Хутчэй за ўсё, інфармацыя заснавана на заканадаўчых ініцыятывах, што датычацца павышэння эфектыўнасці контрразведвальнай абароны насельніцтва, якія ўжо абмяркоўваліся».

«Відаць, рэкамендацыі, што датычацца паводзін за мяжой, будуць закранаць некаторых кіраўнікоў, каб у той ці іншай меры абараніць гэтых людзей ад супрацьпраўных замахаў, ад правакацый і іншых негатыўных аспектаў, з якімі яны могуць сутыкнуцца за межамі краіны», — адзначыў Антановіч.

**БелаПАН**

### Сцісла

**«Славянскі камітэт» высяляюць за няўплату арэнды?**

Офіс былога дэпутата Сяргея Касцяна апячатаны. Судовы выканаўца А.Кабылянскі адказаў так: «Выконваю рашэнне суда. Відаць, запазычанасць за арэнду, таму і апячаталі. Найчасцей менавіта так і здараецца».

**Лукашэнка, магчыма, наведае Эквадор**

26 чэрвеня кіраўнік Беларусі паляціць у Венесуэлу на сустрэчу з Уга Чавэсам. На зваротным шляху ёсць верагоднасць наведвання яшчэ адной паўднёваамерыканскай краіны.

**Аштрафавалі за пазыку... у бацькі**

Старшыню АГП Анатоля Лябедзьку і ягоных сваякоў правярае падатковая інспекцыя. Палітыка аштрафавалі на 500 тысяч рублёў. Прычынай для штрафу стала тое, што Лябедзька для куплі аўтамабіля пазычыў грошы ў бацькі, але не аформіў гэта юрыдычна як пазыку і не ўказаў пра гэта ў дэкларацыі.

ЗП

# Як жывецца мінскаму бамжу




**Бяздомнага Міколу** я сустрэла на прыпынку грамадскага транспарту.

Ён паліў тонкую цыгарэтку і ахвотна пагадзіўся пагутарыць. «Я вам усю праўду раскажу!» — абяцаў мужчына, пакуль мы ішлі да таннай сталоўкі на вуліцы Чырвонай.

Мікалай (імя зменена) нарадзіўся ў 1963 у Самахвалавічах, што пад Мінскам. Затым сям'я перабралася ў сталіцу. Мастак-самавучка, пасля школы працаваў у пахавальным бюро, рабіў партрэты на помніках. На тыя часы меў неблагія грошы.

Але лёс наканаваў яму іншую «кар'еру». У 20 гадоў хлопец трапіў у турму за забойства. Падчас адседкі маці загінула ў аўтааварыі. На яе пахаванне маладога зэка не адпусцілі.

Як потым стала вядома, разам з маці Мікола страціў і кватэру на Старавіленскім тракце. Калі ён «адкінуўся» ў 1995-м, там ужо жылі «мянты». «Па ранейшых законах, калі цябе 6 месяцаў няма — аўтаматам выпісвалі», — кажа Мікола. Так ён стаў бяздомным. Першую ноч на волі правёў у падвале.

У Мінску ў Міколы жывуць два браты. Першы — сямейны чалавек, мае дзвюх дачок. Але паколькі ў турме Мікола падхапіў туберкулёз, то жыць з сям'ёй брата не выпадала. Другі — п'яніца, але заначаваць часам пускае.

Апошнія дзевяць гадоў Мікола жыве на вуліцы. Усё сваё, як кажуць, носіць з сабой. Маёмасць 50-гадовага мужыка лёгка змяшчаецца ў заплечніку і поліэтыленавай торбе. Начуе ў пад'ездах. Кажа, людзі не ганяюць. Зімуе ў «бамжатніку» на вуліцы Ваўпшасава.

На працу ўладкоўвацца не думае. «Куды мяне возьмуць са зламанай рукой?» Неяк выпіваў з прыяцелем на вакзале. Той здуру прапанаваў спыніць электрычку рукой.

## Грошы на «супакой» пайшлі на «шкуру са стаметроўкі»

Так Мікола зламаў руку. Добра, што жывы застаўся.

«Бутэлечным бізнэсам» ён не займаецца: нявыгадна. «Хай бабулькі здаюць», — кажа Мікола.

З голаду не памірае, жыве тым, што дадуць людзі. У Міколы такі прынцып: ад бедных грошы не браць. «Неяк бабулька працягнула 50 тысяч — не ўзяў!» «Багатыя» ў яго разуменні — гэта тыя, што ездзяць на «мэрсах».

Гэтай зімой Міколу моцна падфарціла. Адзін шчодры чалавек даў ажно 800 еўра, 150 долараў і 5 мільёнаў рублёў. «Ты ўяўляеш, пяць мільёнаў! Я гляджу на яго: жартуе, ідзе? А ён мне кажа: маліся за супакой душы», — расказаў Мікола сваю бадай што самую незвычайную прыгоду.

Грошы на «супакой» пайшлі на «шкуру са стаметроўкі», з якой герой-палюбоўнік накіраваўся ў гатэль «Беларусь». Мікола са смакам апісвае свае прыгоды. Як ён жыў у гатэлі, купляў дарагую гарэлку. Ажно пакуль грошы не скончыліся. Цяжка ацаніць, што праўда, што прыдумка ў гэтай гісторыі.

«Потым я падумаў, што можна было тыя грошы ў банк пакласці. Такія працэнты былі б! Дурненькі...» — кажа Мікола.

Газет Мікола не чытае, тэлевізар не помніць калі апошні раз бачыў. Не любіць улады і не верыць афіцыйнай версіі выбуху ў метро. Кажа, яго прыяцелі таксама «супраць Лукашэнкі».

Галоўныя «ворагі» Міколы — «мянты». Скардзіцца, што яго неаднаразова літаральна выкідалі за горад, каб не швэндаўся ў цэнтры.

«Калі вы такія разумныя, то чаму тады такія бедныя, а?» — казаў ён людзям на прыпынку, дзе мы з ім пазнаёміліся.

У Бога Мікола не верыць. «Я жыву дзеля жыцця. Мы жывём адзін раз, другога жыцця не будзе. Але я хутка ўжо памру», — такі сэнс існавання гэтага чалавека.

**Аксана Рудовіч**

# На трасе М1 запрацавалі радары?

**Сістэма фота- і відэафіксацыі** парушэнняў неўзабаве ўсё ж такі запрацуе.

Паводле інфармацыі Onliner.by, першыя «лісты шчасця» (як яшчэ называюць пастановы пра зафіксаваныя камерамі парушэнні хуткасных рэжымаў) прыйдуць аўтамабілістам найбліжэйшым часам. Славуты загад № 454 запрацуе ў поўную сілу.

Камеры кантролю хуткасці павінны былі ўключыцца яшчэ 19 мая. Аднак адкрыта пра гэта нідзе не абвяшчалася. «Ужо гатовыя першыя пастановы аб парушэннях. Неўзабаве яны будуць адпраўленыя», — сказалі ў ДАІ.

Актыўна пра сістэму фота- і відэафіксацыі парушэнняў гаварылі ў канцы 2010 года. Быў падпісаны загад № 454, які прадугледжвае, што ў першую чаргу прэтэнзіі будуць выстаўляцца ўласніку аўтамабіля.

«Якасць здымкі даволі высокая, таму будзе добра распазнавацца не толькі нумарны знак і марка аўтамабіля, але і твар кіроўцы. Пасля таго як здымак будзе апрацаваны і супрацоўнікі ДАІ вызначаць уладальніка аўтамабіля, яму будзе накіраваная раздрукоўка выявы з указаннем часу, месца фіксацыі і самога транспартнага сродка. Калі выявіцца, што ў момант парушэння правілаў дарожнага руху ўладальнік з нейкіх прычынаў не распараджаўся транспартным сродкам альбо аўтамабіля ў яго проста не было з прычыны злачыннага дзеяння (напрыклад, выкрадання), законны ўладальнік павінен напісаць заяву пра тое, што ў момант правапарушэння аўтамабілем кіраваў не ён. Працэс у дачыненні да яго будзе спынены аўтаматычна і пачнецца ў дачыненні да таго, хто сапраўды кіраваў транспартным сродкам», — казалі тады ва УДАІ МУС.

Увядзенне сістэмы ў дзеянне замарудзілася, і вось усё ж такі радары запрацуюць.

**auto.onliner.by**

# Пенсіянер пад Сянном захапіў у закладнікі сям'ю і забіў дзяўчыну

Жыхар Сенненскага раёна захапіў сям'ю і забіў дзяўчыну, паведаміла афіцыйная прадстаўніца ўпраўлення Следчага камітэта па Віцебскай вобласці Іна Гарбачова.

У панядзелак вечарам пенсіянер 1950 года нараджэння з вёскі Рулеўшчына ўварваўся ў дом 58-гадовага знаёмага з суседняй вёскі Старая Беліца і стаў пагражаць вяскоўцу і дзвюм яго дочкам нажом.

Утрымліваючы ў доме присутных, мужчына, што знаходзіўся ў неадэкватным стане, выстаўляў патрабаванні аб сустрэчы з рознымі кіраўнікамі вышэйшага ўзроўню дзяржаўнага кіравання.

З дома змагла выбегчы 17-гадовая дачка гаспадара, якая і выклікала супрацоўнікаў міліцыі. У 1.30 ночы, скарыстаўшыся аслабленнем увагі зламысніка, змог уцячы і бацька сямейства. У доме заставалася толькі яго старэйшая дачка 1991 года нараджэння.

Супрацоўнікі міліцыі і мясцовых органаў улады, што прыбылі на месца здарэння, прынялі рашэнне аб штурме.

У выніку зламыснік быў затрыманы. У доме быў знойдзены труп старэйшай дачкі гаспадара кватэры з колата-рэзанай ранай.

У дачыненні да мужчыны распачата крымінальная справа па ч.2 арт.139 КК Рэспублікі Беларусь (забойства). Матывы здзяйснення злачынства высвятляюцца.

**БелТА**

**Фотафакт**




**Дык дзе знаходзіцца Польшча?**

Адзін з плакатаў у Нідэрландах да Еўра-2012. Польшча і яе гарады на карце пазначаны на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Афіша Еўра стаўся хітом інтэрнэту.

# Што будуецца на Прытыцкага?




Каля гэтай дарогі жыве **больш за ўсё** мінчукоў.

У №18 «Наша Ніва» напісала пра ўсе будоўлі на «прэзідэнцкай трасе», мінскім праспекце Пераможцаў. Цяпер падыходзіць чарга наступнай магістралі — той, якая вядзе з цэнтра горада ў бок Гродна і Вільні.

Колішні «Ракаўскі тракт» — галоўная дарога паўмільённага Фрунзенскага раёна сталіцы. У ім жывуць больш беларусаў, чым у любым з абласных цэнтраў краіны! Гэта робіць раён вельмі перспектыўным для арганізацый гандлю і сэрвісу.

Такім чынам, што зможа ўбачыць госць сталіцы, калі праз некалькі гадоў апынецца на вуліцах Кальварыйскай і Прытыцкага?

## 1 Хмарачос «Ветразь»

У «першы хмарачос Беларусі» ўкладзена ўжо столькі грошай, што спыніцца будоўля не можа. Але тэмпы не радуюць — вось ужо год кампанія «Ітэрабелбуд», філіял расійскай нафтавай «Ітэры», не можа дарабіць апошнія тры паверхі 130-метровага будынка. Продажы ідуць не надта паспяхова, таму некалькі паверхаў хмарачоса могуць аддаць пад гатэльныя нумары.






## 2. Grand Fashion Mall

Паміж «Ветразем» і гіпермаркетам «Карона» патроху будуецца гандлёва-забаўляльны квартал з крамамі, офісамі і рэстаранамі. Хуткасці будаўніцтва перашкаджае абутковая фабрыка «Прамень», якая ніяк не можа пераехаць за межы Мінска. Квартал мусіць быць дароблены да 2015 года.

Будаўніцтва вядзецца кампаніяй «Аўтабізнэс», якая ўваходзіць у склад холдынга «АБУ Груп» на чале з бізнэсоўцам Дзмітрыем Розумам. Ён валодае гандлёвым цэнтрам «Падземны горад», займаецца імпартам аўтамабіляў «Сітраен» і выпускае некалькі аўтамабільных часопісаў.

## 3. Жылы комплекс «Каскад»

Каля чыгуначных шляхоў вядзецца будаўніцтва квартала «Каскад» — галоўнага праекта кампаніі «Юнівест-М» на чале з Анатолем Тарнаўскім. Нагадаем, супраць гэтай кампаніі, у якой працуе нявестка кіраўніка дзяржавы Ганна Лукашэнка, увёў санкцыі Еўрасаюз.

16 гектараў, на якіх будзе 125 тысяч кв.м жылля і больш за 100 тысяч квадратаў камерцыйнай нерухомасці — такі размах набрала нафтавая кампанія. Аднак назваць раён прэстыжным складана. Апроч шуму ад чыгункі і развязкі, якая будзе дабудаваная праз некалькі гадоў, наварта забывацца і пра аўру — частка комплексу будуецца на месцы былой турмы.



## 4. Гатэль і офісны цэнтр

Насупраць Кальварыйскіх могілак пачалося будаўніцтва дзевяціпавярховага гатэля на 130 нумароў і офіснага цэнтра. Забудоўшчык — беларуска-польскае прадпрыемства «Строрлінвест-М», якое некалькі гадоў таму стварыла па суседстве комплекс з чатырох жылых дамоў. Спачатку меркавалася будаваць толькі офісны цэнтр, але Мінгарвыканкам настаяў яшчэ і на трохзорkavым гатэлі. Новы будынак будзе пафарбаваны ў светла-аранжавы колер. Працы скончацца да 2014 года.



## 5. «Гулівер»

«Гулівер» — класічны прыклад яшчэ аднаго гандлёва-забаўляльнага цэнтра з рэстаранамі, буцікамі, начным клубам, цэнтральным гіпермаркетам і нават шасціпавярховым паркінгам. Комплекс будзе належыць кампаніі «Арэса-Сэрвіс», аднаму з найбуйнейшых забудоўшчыкаў Мінска на чале з бізнэсоўцам Сяргеем Карэнькам. Працы, якія яшчэ фактычна не пачыналіся, маюць скончыцца да 2015 года.



## 6. «Цівалі»

Такі комплекс пачало будаваць ААТ «Фестывальны цэнтр». Фінансаванне офіснага цэнтра і трохзоркавага гатэля на 146 нумароў мусіла ажыццяўляцца долевым спосабам, аднак памяшканні попытам не карысталіся. Сем паверхаў ужо пабудаваныя. Працы мусяць скончыцца ў 2013 годзе. «Цівалі» месціцца літаральна за 200 метраў ад больш амбітнага «Гулівера». Магчыма, выжыве толькі адзін з іх.






## 7. Гіпермаркет «Скала»

У планах літоўскай інвестыцыйнай кампаніі «Рапа» будаўніцтва гіпермаркетаў у Віцебску, Салігорску і ў Мінску, на вуліцы Пятра Глебкі. Трохпавярховы комплекс будзе каштаваць каля 40 мільёнаў еўра. Мяркуецца, што яго здадуць у эксплуатацыю ў студзені 2013 года.



## 8. Супермаркет «Алмі»

На месцы аўтастаянкі паміж дамамі №91 і №97 з'явіцца супермаркет сеткі «Алмі» мільянера Аляксандра Зарыбкі. Ён зрабіў свой бізнэс у Расіі, хоць і нарадзіўся ў Пінску. Тут будзе крама, фітнэс-цэнтр, спа-салон, боўлінг, а таксама дзве кавярні. Каб кампенсаваць стаянку, інвестары пабудуюць гасцявую паркоўку на 310 месцаў, а таксама паркінг на 500 месцаў.

## 9. Гіпермаркет і гатэль Юрыя Чыжа

Гандлёва-забаўляльны копмлекс каля станцыі метро «Каменная Горка» будуе кампанія мільянера Юрыя Чыжа, які прапісаўся ў спісе санкцый Еўрасаюза. Аднак канкрэтна «Магнус-групы» ў чорным спісе няма, што дазваляе ёй шчыльна супрацоўнічаць з літоўцамі.

**Што яшчэ?**

11. 16-павярховы трохзоркавы гатэль на грошы чэшскага інвестара.

12. 9-павярховы офісны будынак «Беларуснафты» з запраўкай і крамай «Асобіна».

13. 50-павярховая (!) офісная і жылая вежа на месцы стаянкі. Будаўніцтва малаверагоднае.

14. Жылы дом «ТэраБудІнвест», які не можа дабудавацца ўжо пяць гадоў.

15. Гіпермаркет «Прастор» на скрыжаванні Прытыцкага і МКАД.

Праект разлічаны ажно да 2018 года, але спачатку будзе пабудаваны 22-павярховы офісна-гатэльны цэнтр.



## 10. Стадыён СКВІЧ

Не на вуліцы Прытыцкага, але за кіламетр ад яе, у раёне Каменная Горка з'явіцца гіганцкі комплекс футбольнага клуба СКВІЧ бізнэсмэна Віктара Паўлава. У яго ўвойдуць стадыён на 6 тысяч месцаў, футбольны манеж, гандлёвы цэнтр, гатэль і медыцынскі цэнтр агульным коштам 200 мільёнаў еўра. Для рэалізацыі праекта кампанія шукае замежнага інвестара. Апроч таго, СКВІЧ будуе жылыя дамы ў той самай Каменнай Горцы і непадалёку ад станцыі метро «Спартыўная».



Ягор Марціновіч

## Сцісла

### Азербайджанская шчодрасць

Урад Азербайджана да канца 2013 года выплаціць кампенсацыю па ўкладах, замарожаных у савецкі час. Працэс ахопіць 2,4 мільёна ўкладчыкаў і запатрабуе да $1,27 мільярда. Валютныя рэзервы Азербайджана тым часам перавысілі $43 мільярды. (У Беларусі цяпер — $8 млрд.)

### Кітай рэканструюе «Мінск-2» па старым кошце

Кітай усё ж возьме ўдзел у рэканструкцыі дзейнага тэрмінала, будаўніцтве новага тэрмінала і другой узлётна-пасадачнай паласы аэрапорта «Мінск-2». Агульны кошт праекта складзе $600 мільёнаў. Крэдыт будзе звязаным — кітайцы будуць працаваць на кітайскім абсталяванні па кітайскіх тэхналогіях.

### Каля Фаніпаля вырабяць швейцарскія электрычкі

У вытворчасць швейцарскіх электрычак Stadler у Мінскай вобласці на першым этапе будзе ўкладзена каля 50 мільёнаў еўра. У 2012–2013 гадах чакаецца выпуск 18 электрацягнікоў і 30 трамваяў, у 2014-м — да 30 электрацягнікоў, 30 трамваяў і 500 тралейбусаў.

### Кватэрнае пытанне

Па дадзеных Мінгарвыканкама, на пачатак года 5 300 мінчукоў мелі ва ўласнасці па тры кватэры, 742 чалавекі — па чатыры, 170 гараджанаў — па пяць кватэр, а 140 чалавек — па шэсць і больш! Некаторыя з іх будавалі з дзяржаўнай падтрымкай як мінімум тры кватэры на працягу пяці гадоў, хоць даводзілася ўкладаць і ўласныя грошы.

### Кватплата ў рэгіёнах будзе розніцца?

Паўнамоцтвы па фармаванні тарыфаў на ЖКГ будуць перададзеныя Мінгарвыканкаму і аблвыканкамам. Калі праект будзе зацверджаны, мясцовыя ўлады будуць самі рэгуляваць тарыфы. У сярэднім па краіне насельніцтва пакрывае 16,6% кошту паслуг ЖКГ, а ў Мінску аплачваюць 33% кошту, таму тарыфы ў рэгіёнах мусяць расці хутчэй.

ЯМ

# Упершыню на Акрэсціна адправілі палітолага

**Суддзя Якунчыхін пасадзіў** дырэктара BISS Пікуліка на 5 сутак.


Аляксей Пікулік па выхадзе з Акрэсціна.
СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У будынку ў лагчыне на вуліцы Кірава, дзе колісь месціўся легендарны Беларускі ліцэй імя Якуба Коласа, цяпер суд Цэнтральнага раёна сталіцы. Да абеду з Акрэсціна туды даставілі акадэмічнага дырэктара Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў (BISS), доктара палітычных навук, выкладчыка ўніверсітэта ў Санкт-Пецярбургу Аляксея Пікуліка, затрыманага напярэдадні. Злева — клетка, але Пікулік сядзіць не ў клетцы, а на лаве.

Судзіць Пікуліка суддзя Якунчыхін — чарнявы, лысеючы мужчына гадоў 35-ці, з зямлістым тварам і стомленымі, нявыспанымі вачыма. Сакратаркай у судзе высокая прыгожая дзяўчына ў чорных ласінах.

Са словаў Пікуліка, ён выйшаў з дома на Нямізе, дзе жыве, і падышоў да сваёй машыны, што была прыпаркавана непадалёк ад італьянскага пасольства. Яго затрымалі дзве асобы ў цывільным, якія прадставіліся супрацоўнікамі крымінальнага вышуку. Аляксей трымаецца бадзёра і з гонарам.

Дапытваюць міліцыянтаў-сведкаў. Імі выступаюць Аляксей Гарошка і Аляксей Карповіч, якія служаць у Палку спецыяльнага прызначэння.

Яны заявілі, што яны праходзілі праз двор дома па адрасе Няміга, 6, у якім жыве Аляксей Пікулік, і пабачылі, як ён стаяў у двары, размахваў рукамі і нецэнзурна лаяўся. Яны, маўляў, да яго падышлі, ён нібыта стаў іх абражаць. Міліцыянты склалі справу... склалі пратакол аб правапарушэнні.

На працэсе прысутнічаюць калегі Аляксея, некалькі журналістаў, а таксама мама і тата Пікуліка.

У якасці сведкі выступіла мама Аляксея, якая адзначыла супярэчнасці ў паказаннях міліцыянтаў. У судзе абвешчаны перапынак.

Пасля перапынку суддзя нудным голасам, з інтанацыямі, як у тэлесудах, зачытаў пратаколы і выпіску з рэгістра адміністратыўных парушэнняў. Гэта ўжо сёмы пратакол на Пікуліка за гэты год (папярэднія былі складзеныя ДАІ за перавышэнне хуткасці руху). Ён у нас стаў прафесарам-рэцыдывістам.

Адвакат заявіла хадайніцтва аб паказаннях камер назірання італьянскага пасольства, каля якога адбывалася затрыманне Пікуліка, і далучыць інфармацыю пра адукацыю, доктарскую ступень і працоўныя рэгаліі Пікуліка.

Суддзя адхіляе гэтыя хадайніцтвы. Маўляў, патрабаванне відэазапісаў з камер зацягне працэс.

Пікулік называе суд сумессю Кафкі і «Алісы ў краіне цудаў». Просіць апраўдаць яго або даць штраф, «бо Пуцін ужо выехаў». Кажа, што не мог размахваць рукамі, бо нёс дзве цяжкія сумкі.

«Вы кажаце, што не размахвалі рукамі, а самі пры гэтым жэстыкулюеце», — з непаўторнай інтанацыяй, гледзячы трохі ўбок, заўважае суддзя.

«Гэта таму, што я чатыры з паловай гады правучыўся ў Італіі», — адказвае Пікулік.

Адвакатка без асаблівай надзеі нагадвае аб прэзумпцыі невінаватасці, просіць запрасіць сведкаў-грамадзянаў, а не міліцыянтаў, якія б бачылі, як Пікулік «лаяўся матам і размахваў рукамі».

Яшчэ адзін перапынак — для вынясення рашэння.

Суд палічыў віну даказанай. Прысуд — арышт на 5 сутак. Слёзы на вачах мамы Аляксея. Усім устаць! Суд выходзіць! Усе ўсталі. Аляксея павялі ўніз, у сіні бобік. З сабой яму дазволілі ўзяць цёплыя рэчы.

Так прайшоў чарговы цынічны палітычны працэс.

У Беларусі за лаянку садзілі апазіцыйных палітыкаў, журналістаў, праваабаронцаў. Упершыню на суткі адправілі палітолага.

**Мікола Бугай**

## Сціслa

### Да Статкевіча пусцілі родных

З асуджаным палітыкам сустрэліся жонка і бацька. Размова доўжылася дзве гадзіны пад наглядам супрацоўніцы турмы. Па словах яго жонкі Марыны Адамовіч, палітык схуднеў. Каб не страціць формы, выконвае фізічныя практыкаванні. Статкевіч заклікаў, каб тыя, хто яму піша лісты і не атрымлівае адказу, пісалі скаргі ў пракуратуру. Па яго словах, гэта дапамагае.

### «Умешваўся ў дзеянні міліцыі»

Актывіста кампаніі «Гавары праўду» Міхаіла Пашкевіча асудзілі на 7 сутак. Суддзя Светлагорскага раёна Ірына Алісейка палічыла, што малады чалавек «умешваўся ў дзеянні супрацоўнікаў міліцыі». Затрымалі Пашкевіча 31 мая ў в. Якімава Слабада, дзе ён дапамагаў жыхарам у падрыхтоўцы да мясцовага рэферэндуму па праблеме пабудовы завода беленай цэлюлозы.

**КМ**

# Фестываль нацыянальных культур у Гродне азмрочыўся «хапуном»

Людзі **пратэставалі супраць русіфікацыі** адзінай польскай школы.



1 чэрвеня каля аблвыканкама ў Гродне мусіла прайсці акцыя супраць русіфікацыі польскай школы. З раніцы ў горадзе прайшлі затрыманні актывістаў апальнага Саюза палякаў ды журналістаў.

Кагосьці бралі прэвентыўна, кагосьці — непасрэдна перад будынкам аблвыканкама. У пастарунках апынуліся Анджэй Пачобут, Эдвард Дмухоўскі, Ігар Банцар, Мечыслаў Яськевіч, Гражына Шалкевіч, Ян Роман, Андрэй Фралоў Алесь Дзянісаў, Юлія Каляда...

Пасаромеліся затрымліваць толькі людзей сталага веку, якія ўдзельнічалі ў пікеце, а моладзь хапалі бязлітасна.

У Гродна, абласным цэнтры, цяпер няма ніводнай беларускамоўнай школы, і дзейнічае толькі адна польская. Ва ўсіх астатніх выкладанне вядзецца па-расейску. У 1995-м 75% школьнікаў горада навучаліся па-беларуску. Беларускамоўная моладзь падтрымала пратэст палякаў супраць адкрыцця расейскамоўных класаў у адзінай польскай школе.

За «несанкцыяванае пікетаванне» і «непадпарадкаванне законным патрабаванням» пакуль асудзілі толькі актывіста не прызнаванага ўладамі Саюза палякаў Ігара Банцара. Суддзя Ксенія Стасюкевіч дала яму 13 сутак арышту.

Банцар быў моцна збіты міліцыянтамі, паведамляе радыё «Свабода», у пастарунку яму стала дрэнна, падняўся ціск, выклікалі «хуткую». Як мяркуюць паплечнікі Банцара, тэрмін яму далі, каб сышлі сляды збіцця. Іншых затрыманых пакуль у суд не выклікалі.

**Алесь Кіркевіч**

Погляд

# Інтэрнэт уратаваў беларушчыну?

Колісь у мяне была мара: сабраць усіх нацыянальна свядомых, маладых, шчырых, працавітых у адным месцы. Засяліць які-небудзь Чачэрск ці Рагачоў. Піша **Яўген Якавенка**.

Назіраецца тэндэнцыя да змяншэння ўжывання беларускай мовы ў паўсядзённым жыцці. Апошні перапіс насельніцтва гэта паказаў. Цікава, а што паказаў бы перапіс насельніцтва, калі б пытанне ставілася пра мову, якую мы ўжываем у віртуальным жыцці?

### Беларусам быць проста

На такую думку мяне наштурхнуў аповед майго сябра. Ён працуе выкладчыкам у вясковай школе. Дык ягоныя вучні неяк сказалі: «А найбольш беларускамоўных — «У кантакце!» Сапраўды, праглядаючы сваю стужку навінаў, лаўлю сябе на думцы, што расейская там — яўна мова нацыянальнай меншасці.

Дзясяткі артыкулаў на беларускай мове, прысвечаных Беларусі і не толькі, сотні разнастайных перапошчаных песняў, безліч кліпаў маладых і не вельмі выканаўцаў.

Растуць шматлікія суполкі прыхільнікаў беларушчыны. Інтэрнэт прарывае блакаду, раскрывае неверагодныя магчымасці для стасункаў, абмену інфармацыяй. Яшчэ нейкіх дзесяць гадоў таму я прыязджаў у Мінск спецыяльна ў пошуках навінак беларускай музыкі ці літаратуры. Сёння гэта ўсё тут — пад бокам. Беларусам быць проста як ніколі.

Яскравы паказчык — Вікіпедыя. Абодва варыянты беларускай вікі (тарашкевіцай і наркамаўкай) маюць больш за сорак тысяч артыкулаў кожная. Ці шмат гэта? Латышская вікі мае прыкладна столькі ж.

Энтузіясты цягнуць на сабе тое, што адмаўляецца цягнуць дзяржава. Перакладаюць на мову софт, гульні, ствараюць безліч сайтаў.

Маладыя ды крэатыўныя «Будзьма» ды «34mag.net» — сёння твар беларускай альтэрнатыўнай культуры. На мову перакладаюцца фільмы. Цяпер толькі лянівы не знойдзе такія ў інтэрнэце. Не кажу ўжо пра

**Найбольш беларускамоўных — «У кантакце»!**

музыку: нічога не каштуе сесці і пад гітару на дыктафон найграць нешта, пра што душа пяе.

Шматлікія перакладчыкі дазваляюць лёгка вучыцца па-беларуску на любой спецыяльнасці. Праверана на ўласным досведзе.

Знайсці беларускамоўных сяброў ці, прынамсі, людзей, што таксама шукаюць кампанію для першага кроку, — таксама не праблема нават у мястэчку.

Літаральна за апошнія паўгода паўстала безліч старонак «У кантакце», прысвечаных гумару па-беларуску, і гэты шэраг можна падаўжаць, бо за час напісання гэтага матэрыялу з'явіўся з дзясятак падобных.

### Беларускае пакаленне NEXT

Існуе меркаванне, што апошнімі адраджэнцамі было «пакаленне last» — людзі, якім цяпер за 30. Нібыта яны, глытнуўшыя свабоды і адкрытай беларусізацыі пачатку 90-х, — апошнія носьбіты Беларушчыны. Цяпер большасць з іх не фармуе сучасны цуд, другое, я б сказаў, Адраджэнне — інтэрнэт-адраджэнне. Яны займаюцца сем'ямі, працуюць на сур'ёзных працах, а моладзь крэатывіць штодня і некалькімі клікамі мышкі дзеліцца сваім крэатывам з сусветам. Відэа, аўдыё, фота — цяпер мала хто не лічыць сябе фотааматарам ці апаратарам-пачаткоўцам. Усе авалодалі фоташопам і бамбяць дэматыватары і іншыя штуковіны.

І гэта натхняе. Ствараецца ўражанне, што ўсё навокал беларускае, роднае.

Мы стасуемся і жывём у сваім беларускім свеце.

Колісь у мяне была дзіўная мара, што з'явілася ў нейкай ступені ад разгубленасці — сабраць усіх нацыянальна свядомых, маладых, шчырых, працавітых у адным месцы. Засяліць які-небудзь слынны горад накшталт Чачэрска ці Рагачова (для пачатку) і будаваць там сваю маленькую беларускую Беларусь.

Інтэрнэт дае магчымасць быць побач на адлегласці. Размаўляць, падтрымліваць адно аднаго, будаваць гэтую Краіну ўжо цяпер. Праблемы з канцэртамі? Новыя альбомы выкладаюцца ў інтэрнэце ў вольнае карыстанне. Не друкуюць кнігі — у віртуальнай прасторы ствараюцца цэлыя інтэрнэт-бібліятэкі!

Але тут трэба мець на ўвазе, што тое самае адбываецца і з псеўдакультурай і з іншымі сацыяльнымі з'явамі: яны робяцца дасяжнымі і насаджаюцца з усіх бакоў.

Таму адраджэнцам інтэрнэт-пакалення трэба быць крэатыўнымі, каб прыцягваць на свае бакі масы, рабіць мову моднай, вясёлай, цікавай, быць дзёрзкімі і напорыстымі — гэта крок нумар два, бо свой святы абавязак і крок нумар адзін — захаваць агмень Адраджэння дзевяностых у наш складаны час — яны ўжо выканалі.

# Чыноўнік: Каб прыязджала больш гасцей, трэба не саромецца сэкс-турызму

Чакаецца маштабны **продаж помнікаў** гісторыі.


PHOTO.BYMEDIA.NET

Пра гэта ў інтэрв'ю тэлеканалу «РТР-Беларусь» заявіў намеснік міністра спорту і турызму Часлаў Шульга. За грошы можна купіць і палац Патоцкіх, і маёнтак Раманавых.

«Хай купяць за базавую велічыню, але возьмуць на сябе сацыяльную нагрузку: што на працягу 5–10 гадоў будуць развіваць тут турызм», — кажа Шульга.

Намеснік міністра паведаміў, што зараз спісваюць у разрад нежылых дзясяткі вёсак. «Мёртвыя» вёскі таксама плануюць прадаваць за бясцэнак.

Адказваючы на пытанне вядучага пра яшчэ адзін кірунак турызму (маўляў, у Беларусь цяпер актыўна езджаць сэкс-турысты з Італіі, Турцыі), Часлаў Шульга прапанаваў гэтага не саромецца.

«Гэта тое, што, напрыклад, запатрабавана ў Даніі. Яны знайшлі козыр. Мы сёння гэта не культывуем, не гаворым — прыязджайце да нас па сэкс-паслугі. Але калі ў кагосьці ёсць цікавасць, то хай едзе, шукае, знаёміцца, жэніцца», — лічыць чыноўнік.

**СГ**

# Мадонна загрымíравалася пад Лукашэнку

Таксама у відэашэрагу з'явіліся **Гітлер, Марын Ле Пэн,** Бенедыкт XVI.

31 мая канцэртам у Ізраілі пачала сусветнае турнэ спявачка Мадонна. Яна плануе выступіць у 68 гарадах свету, у тым ліку ў 28 еўрапейскіх. Сёньняшнія канцэрты сусветных поп-зорак — гэта гіганцкае шоу. Песня Nobody knows me — яскравы прыклад: на экране ў глыбіні сцэны паказваюць твар Мадонны, які з'яўляецца ў розных вобразах.

Выявы змяняюцца амаль са штосекунднай хуткасцю. Тым не менш, на экране ўдаецца разгледзець Гітлера, Бенедыкта XVI, Марын Ле Пен са свастыкай на лбе. Ёсць і Лукашэнка: каб нададць падабенства, на Мадонну ўздзелі фуражку і кіцель генералісімуса, дамалявалі характэрныя вусы.

«Мадонна выкарыстоўвае любыя сродкі, каб зрабіць яскравае, запамінальнае шоу, — кажа філосаф Алесь Анціпенка. — Лукашэнка ж многа дзе ў свеце мае імідж «апошняга дыктатара Еўропы». Да таго ж — ён актуальны, у адрозненне ад Кадафі, Гітлера. Ну, як было не выкарыстаць яго вобраз?»



На жаль, у сёлетнім гастрольным графіку спявачкі Беларусі няма. 1 жніўня яна выступіць у Варшаве, 4 жніўня — у Кіеве, 7 жніўня — у Маскве, 9-га — у Пецярбурзе.

**СМ**


БЕЛАПАН

**Фотафакт**

**2 чэрвеня ў Мінску прайшоў «Олдтаймер-ралі 2012». Спаборнічалі ўладальнікі рарытэтных аўтамабіляў, выпушчаных 30 гадоў таму і раней. Былі тут і пераапранутыя фашысты з савецкімі памежнікамі.**

# Аўтару «шчырага футбола» — 70

**Эдуард Малафееў** адзначыў юбілей.

Ён нарадзіўся ў Краснаярску, жыў пад Масквой, але ўжо даўно ўспрымаецца ўсімі як беларус. У 1963 Малафееў пераехаў у Мінск. Потым звязаў з гэтым горадам сваё жыццё.

У 1982 мінскае «Дынама» пад яго кіраўніцтвам выйграла першынства СССР. Малафееў высунуў тэорыю «шчырага футбола». Гульню сэрцам, а не розумам. Яго называлі галоўным апанентам Валерыя Лабаноўскага, які быў апалагетам рацыянальнага футбола.

Малафееў ледзь не вывеў нацыянальную зборную Беларусі на першынства свету ў 2001.

Ён дзівакаваты, расказвае байкі пра адважных павіянаў, а на прэс-канферэнцыях чытае вершы. Аднак менавіта з імем Эдуарда Малафеева звязваюцца галоўныя поспехі нашага футбола.



**ЗП**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Спецыфічнае пытанне

1 ліпеня 2007 ля брамы дражджавога завода panавала гістарычная справядлівасць: на месцы, дзе 26 кастрычніка 1941 акупанты павесілі першых мінскіх падпольшчыкаў Кірылу Труса, Валодзю Шчарбацэвіча і Машу Брускіну, якія выратавалі 48 параненых чырвонаармейцаў, гарадское кіраўніцтва адкрывала новы мемарыяльны знак. На былым імя Машы Брускінай адсутнічала. Замест яго — «невядомая».

Нагадаю: Маша была габрэйкай...

...1 лютага 2012 у музеі Вялікай Айчыннай вайны ля здымкаў пакарання, якія пасля фільма Міхаіла Рома «Звычайны фашызм» сталі вядомы ва ўсім свеце, экскурсаводка расказвала: «Адносна дзяўчыны існуюць дзве версіі. Па адной — гэта мінская школьніца Маша Брускіна. Па другой...» «Чаму вы гаворыце пра нейкія версіі?» — запытаўся я. «Так-так, — збянтэжылася экскурсаводка, — я разумею спецыфіку вашага пытання...»

21 мая 2012 дырэктар музея С. Азаронак даслаў у Германію ліст: «Паважаны Міхаіл Саламонавіч!.. Пры нашай апошняй сустрэчы мы запэўнілі Вас, што зробім усё неабходнае дзеля ўвекавечання памяці Машы Брускінай...»

Міхаіл Саламонавіч Нардштэйн — былы ваенны журналіст, зараз жыве ў Германіі. Яму больш за 80 гадоў, я ведаю яго амаль 40. Упэўнены, што ён будзе жыць, пакуль ва ўсіх вядомых яму несправядлівых гістарычных акалічнасцях не пераможа справядлівасць. У красавіку, зарабіўшы ў старога фермера грошай на праполцы гароднінь, ён прыехаў у Мінск. Дзеля Машы Брускінай...

Але чаму?

Чаму пасля 40 гадоў рызыкоўнага, са звальненнямі з працы ды іншымі рэпрэсіямі, змагання журналістаў і гісторыкаў за імя Машы Брускінай; пасля неабвергнутых дакументальных доказаў яе самаахвярнага ўдзелу ў антыфашысцкім Супраціве; пасля таго, як яе імя стала ў цывілізаваным свеце сімвалам гэтага Супраціву, увасобленым у адпаведны медаль, помнікі і назвы вуліц; пасля таго, нарэшце, як яно знайшло прызнанне на радзіме — чаму зноў спатрэбілася «увекавечваць»?

Нагадаю абставіны, якія папярэднічалі прызнанню Машы Брускінай з боку дзяржавы: дыпламатычны скандал з Ізраілем пасля сумнавядомага выказвання Аляксандра Лукашэнкі пра бабруйскіх габрэяў, бліц-візіт

## У кожнага свае гістарычныя шалі

галоўнага рэдактара «СБ» Паўла Якубовіча ў Ізраіль, ягоная прачулая прамова на адкрыцці вуліцы імя Машы Брускінай у Іерусаліме...

2 лютага 2007 «СБ» змясціла рэпартаж з адкрыцця новага мемарыяльнага знака на месцы пакарання. Не менш прачулы. «Сівая жанчына, — піша карэспандэнт, — ...казала сваёй равесніцы: «...Няўжо «інтэрнацыяналісты» і «дэмакраты» накшталт Машэрава і Шушкевіча не здолелі разабрацца ў такім простым пытанні?.. Чаму паўторна забівалі Машу?.. А вось Лукашэнка — верны сабе. Унік, не стаў звяртаць увагі ні на каго, аднавіў праўду. Вельмі высакародна гэта... Дзякуй Аляксандру Рыгоравічу...» Жанчыны выцерлі слёзы...»

Каго ж насамрэч увекавечвалі прапагандысты «СБ»? Былы мінчук, ветэран вайны і ганаровы жыхар Іерусаліма Леў Асвішчэр звяртаўся да Лукашэнкі са «спецыфічным» пытаннем яшчэ ў 2001. Слёз не было. Быў адказ ад Інстытута гісторыі НАН і згаданага музея: дастатковых доказаў, што пакараная патрыётка — Маша Брускіна, няма.

Яшчэ праз 12 гадоў у дзяржаўным, заўважце, музеі — тое ж...

Вось такая «спецыфіка».

Я пазначыў бы яе як *прыхаваны* антысемітызм. На паверхні — помнікі, мемарыяльныя знакі, прамовы. А пад паверхняй — атручаная глеба, цалкам прыдатная для новага ўраджаю.

Падобнага кшталту *прыхаванасць*, двудушша — увогуле ці не самая дзейсная «спецыфіка» рэжыму і адзін з вытокаў яго жывучасці.

...29 мая 2012 я пайшоў у музей паглядзець, што ж «усё магчымае» зроблена па абяцаным «ўвекавечанні». Як і раней, пад жудаснымі здымкамі пакарання — аніякіх прозвішчаў ды імёнаў. Толькі з'явіўся побач збіты з дошак невялічкі стэнд, на якім змешчаны даваенныя здымкі некаторых пакараных. Але здымка Машы Брускінай тут няма. Той адзіны, што захаваўся, маўляў, невыразны...

Затое ёсць выразная цытата з выступу Лукашэнкі ў кастрычніку 2008, падчас 65-годдзя пагрому Мінскага гета: «На фоне маштабных падзей Другой сусветнай вайны, магчыма, і невялікі подзвіг 17-гадовай камсамолкі, вязніцы гета Машы Брускінай...»

Што ж, у кожнага свае гістарычныя шалі, свой маштаб: для каго «фон», а для каго — жыццё, ахвяраванае дзеля ратавання іншых жыццяў.

Таксама спецыфіка...

*kamerton_41@mail.ru*

# Чэмпіянат Еўропы па футболе 2012



| Група A | Пункты |
|---|---|
| Польшча | |
| Грэцыя | |
| Расія | |
| Чэхія | |

| Група B | Пункты |
|---|---|
| Нідэрланды | |
| Данія | |
| Германія | |
| Партугалія | |

| Група C | Пункты |
|---|---|
| Іспанія | |
| Італія | |
| Ірландыя | |
| Харватыя | |

| Група D | Пункты |
|---|---|
| Украіна | |
| Швецыя | |
| Францыя | |
| Англія | |

## Гульні

| Група A | | |
|---|---|---|
| Польшча : Грэцыя | 08.06.,19.00 | : |
| Расія : Чэхія | 08.06., 21.45 | : |
| Грэцыя : Чэхія | 12.06.,19.00 | : |
| Польшча : Расія | 12.06., 21.45 | : |
| Чэхія : Польшча | 16.06., 21.45 | : |
| Грэцыя : Расія | 16.06., 21.45 | : |

| Група B | | |
|---|---|---|
| Нідэрланды : Данія | 09.06.,19.00 | : |
| Германія : Партугалія | 09.06., 21.45 | : |
| Данія : Партугалія | 13.06.,19.00 | : |
| Нідэрланды : Германія | 13.06., 21.45 | : |
| Партугалія : Нідэрланды | 17.06., 21.45 | : |
| Данія : Германія | 17.06., 21.45 | : |

| Група C | | |
|---|---|---|
| Іспанія : Італія | 10.06.,19.00 | : |
| Ірландыя : Харватыя | 10.06., 21.45 | : |
| Італія : Харватыя | 14.06.,19.00 | : |
| Іспанія : Ірландыя | 14.06., 21.45 | : |
| Харватыя : Іспанія | 18.06., 21.45 | : |
| Італія : Ірландыя | 18.06., 21.45 | : |

| Група D | | |
|---|---|---|
| Францыя : Англія | 11.06.,19.00 | : |
| Украіна : Швецыя | 11.06., 21.45 | : |
| Украіна : Францыя | 15.06.,19.00 | : |
| Швецыя : Англія | 15.06., 21.45 | : |
| Англія : Украіна | 19.06., 21.45 | : |
| Швецыя : Францыя | 19.06., 21.45 | : |

## Чвэрцьфіналы

| 1. Група A : 2. Група B | 21.06., 21.45 |
|---|---|
| : | : |

| 1. Група B : 2. Група A | 22.06., 21.45 |
|---|---|
| : | : |

| 1. Група C : 2. Група D | 23.06., 21.45 |
|---|---|
| : | : |

| 1. Група B : 2. Група C | 24.06., 21.45 |
|---|---|
| : | : |

## Паўфіналы



Славек і Слаўко — талісманы чэмпіянату.

| Пераможцы чвэрцьфіналаў 1 і 3 | 27.06., 21.45 |
|---|---|
| : | : |

| Пераможцы чвэрцьфіналаў 2 і 4 | 28.06., 21.45 |
|---|---|
| : | : |



## Фінал



| Пераможцы паўфіналаў | 01.07., 21.45 |
|---|---|
| : | : |

# Футбол за плотам

**У Польшчы і Украіне стартуе Еўра-2012.**

Упершыню спаборніцтва такога ўзроўню праходзіць настолькі блізка ад Беларусі. Нават візаў не трэба афармляць у душных чэргах, каб трапіць на паўфінал ці фінал.

Першынство пройдзе за плотам, так бы мовіць. Ёсць магчымасць паглядзець, падыхаць разам з суседзямі непаўторнай атмасферай Еўра. Але ўсё адно застаецца нейкая драбнічка расчаравання. Бо не з намі дамаўляліся суседзі, не нашы палі будуць таптаць Хаві і Швайнштайгер.

Ясна, няма стадыёнаў. Але да таго ж хакейнага першынства змаглі ўзвесці шыкоўныя лядовыя арэны. І невядома, ці адаб'юцца ўкладанні ў хакейныя спаборніцтвы. Футбол бы акупіўся, тут сумневаў няма.

Другое расчараванне крыху традыцыйнае. Нашых футбалістаў на Еўра зноў не будзе. Дарогу нам перагарадзіла Францыя. Беларусы будуць глядзець праз плот на гульні прафесіяналаў, толькі марачы апынуцца на іх месцах.

Канечне, можна проста насалоджвацца добрай гульнёй, але сімпатызаваць некаму, перажываць усё ж цікавей. Палітвязень Павел Севярынец кажа, што будзе сачыць за выступамі палякаў. Ім у групу трапілі расейцы. Цікавая гульня мае быць, прычым з розных кантэкстаў.

Старшыня АГП Анатоль Лябедзька прызнаецца, што ягоныя фаварыты — Іспанія і Нідэрланды. Гэтыя зборныя гулялі ў фінале апошняга мундыяля. Васьміног Паўль прадказаў перамогу пірынейцам — і не памыліўся.

Іспанцы валодаюць на сёння тытуламі як чэмпіёна Еўропы, так і свету. Тры найвышэйшыя трафеі запар пакуль ніхто з еўрапейскіх зборных не заваёўваў. Хаця ўсе рэкорды некалі руйнуюцца.

Іспанцы — фаварыты ў букмекераў, хаця на пятках ім наступаюць немцы. Амбітныя хлопцы Яхіма Лева ніяк не могуць дацягнуцца да «золата» на топ-спаборніцтвах. Адна з апошніх магчымасцей для некаторых прадстаўнікоў «нямецкага інтэрнацыянала».

Украінцам не пашанцавала з лёсаваннем. Выхад з групы, дзе ёсць Францыя і Англія, ужо можна будзе лічыць за маленькі подзвіг. Але ж вядома, што ў многіх футбалістаў пры родных трыбунах за спінамі вырастаюць крылы.

Некалі спартыўны журналіст Сяргей Новікаў напісаў, што першынствы Еўропы можна параўнаць з «Тыднямі высокай моды ў Парыжы»: безгустоўнасць і другаснасць выключаныя. Выпадковых каманд тут не будзе.

Украінцам і палякам можна толькі пазайздросціць. Зрэшты, і з нашага плота відовішча будзе захапляльным.

**Зміцер Панкавец**



Кіеўскі стадыён «Алімпійскі»: тут будзе фінал Еўра.

# Зачыніўся ў аўто і ўключыў музыку

## Трагедыя пад Крэвам: кіроўца вызваліўся з турмы за два дні да новай аварыі.

Аварыя каля мястэчка Крэва (Смаргонскі раён), якая адбылася 1 красавіка, мела вялікі рэзананс. Нецвярозы на «Вольва» пратараніў «Мерсэдэс». Кіроўца апошняга, 32-гадовая Алена, загінула на месцы. Яе пасажыр, які цудам выжыў у аварыі, праз два месяцы расказаў карэспандэнту «НН» пра акалічнасці трагедыі.

Антон з Аленай вярталіся з Вільні ў Мінск на «Мерсэдэсе» сяброўкі, якая прыехала за маладымі людзьмі на мяжу. За стырно села сама Алена.

«Мы ехалі, размаўлялі і ўбачылі наперадзе святло фараў, — прыгадвае Антон, які сядзеў побач з кіроўцай. — Алена яшчэ ўслых спыталася, бліжняе ці дальняе святло запаленае ў сустрэчнага аўто. Усё адбылося за некалькі секунд».

«Я прытомнасць не траціў, — працягвае Антон. — Адразу выскачыў з машыны. Бок кіроўцы змяла ў металалом. Паспрабаваў выцягнуць дзяўчыну, што сядзела за мной. Але зразумеў, што сам не змагу гэта рабіць. Пачалі спыняцца іншыя машыны. Калі я падышоў да «Вольва», то ўбачыў, што ў руках кіроўцы была бутэлька піва». Затым мужчына павёў сябе дзіўна: зачыніўся ў аўто і ўключыў музыку.

Антона разам са знаёмай забралі ў бальніцу. Дзяўчына не пацярпела. Хлопцу ж адарвала палец, але медыкі змаглі яго прышыць. Пра стан Алены Антону адразу не гаварылі. Толькі праз месяц ён даведаўся, што жанчына загінула.

За рулём «Вольва» знаходзіўся 53-гадовы мінчук. Ён быў п'яны, што пазней пацвердзіла і экспертыза — амаль 2 праміле. «Першапачаткова ён казаў, што не быў за рулём у момант аварыі. Але знайшліся сведкі, якія пацвердзілі адваротнае. Ён не лічыць сябе вінаватым і не раскайваецца», — кажа Антон.

Па інфармацыі ДАІ, кіроўца «Вольва» 21 (!) раз прыцягваўся да адказнасці за парушэнне правілаў дарожнага руху. Тройчы ён затрымліваўся за кіраванне аўто ў стане алкагольнага ап'янення, прычым двойчы прыцягваўся да крымінальнай адказнасці. Летась яго прысудзілі да 6 месяцаў арышту з прымусовым лячэннем ад алкагалізму. На свабоду выйшаў за два дні да аварыі. Мужчына быў пазбаўлены права кіраваць аўто да 2016.

Заведзена крымінальная справа, яе рыхтуюцца перадаць у суд. Максімальнае пакаранне — 5 гадоў пазбаўлення свабоды. Віноўнік ДТЗ узяты пад варту.

...Два месяцы Антон знаходзіцца на бальнічным. «Псіхалагічна мне цяжка», — заўважае ён. І не ведае, калі зможа выйсці на працу. А ў кіроўцы Алены дома засталася 6-гадовая дачка, якая сёлета пойдзе ў школу.

**Сяргей Макарэвіч**



U Алены засталося 6-гадовае дзіця.



**Што рабіць з нецвярозымі кіроўцамі?**

Кіраўніцтва ДАІ выступае за больш строгія меры пакарання для нецвярозых кіроўцаў. Прапаноўвалася канфіскоўваць аўто ў выпадку нецвярозага рэцыдыву, але пакуль гэта толькі ў планах.

У ДАІ просяць, калі нецвярозы сваяк ці знаёмы спрабуе сесці за руль — адгаварыце ці схавайце ключы; убачылі нецвярозага кіроўцу на дарозе — тэлефануйце ў міліцыю.

Дырэктар інфармацыйна-асветніцкай арганізацыі «За аўто» Арцём Шаркоў перакананы, што турэмныя зняволенні для нецвярозых кіроўцаў не даюць належнага выніку. «Неабходныя адмысловыя заняткі з падлеткамі, на якіх трэба тлумачыць небяспеку такіх паводзін».

«Выпіў я з сябрамі піва, а ноччу маленькай дачцэ стала дрэнна. Перапалохаўся, сам сеў за руль… Раней заўсёды ездзіў цвярозы, а тут за першы раз улупілі вялізны штраф…» Такія гісторыі нярэдкія на аўтафорумах.

Многія мяркуюць, што акурат страх атрымаць вялізны штраф прымушае нецвярозых кіроўцаў уцякаць ад ДАІ, ствараючы аварыйныя сітуацыі. Пашыраная і такая думка: чалавек, які трапіў за краты за «п'яную» аварыю, можа канчаткова дэградаваць.

**Сямён Печанко**

У Беларусі п'яных кіроўцаў караюць штрафам ад 15 да 35 базавых велічынь (1,5—3,5 млн руб.) з пазбаўленнем правоў на 3 гады. Калі такі кіроўца не мае права кіравання, то штраф складае 25—45 б.в. (2,5—4,5 млн руб.). За паўторнае на працягу года кіраванне ў стане ап'янення кіроўца прыцягваецца да крымінальнай адказнасці.

# Арыштавалі былога мэра Полацка

## Дзякуючы яму старажытны горад беларусізаваўся.



Экс-старшыню Полацкага гарвыканкама Уладзіміра Тачылу затрымалі 21 мая, паведамілі ў Следчым камітэце. На Тачылу заведзена справа за злоўжыванне ўладай. Яму пагражае да 10 гадоў няволі.

Ад пасады Тачылу вызвалілі ў лютым летась. Па некаторай інфармацыі, ён не паразумеўся са старшынёй Віцебскага аблвыканкама Аляксандрам Косінцам.

Уладзімір Тачыла нарадзіўся ў Полацкім раёне ў 1950. Пасаду старшыні гарвыканкама займаў 12 гадоў. Пра заслугі экс-мэра для горада прыгадвае пісьменнік Уладзімір Арлоў.

«З яго імем звязаны цэлы перыяд сучаснай гісторыі Полацка. У часы, калі ён быў мэрам, з'явіліся помнікі Еўфрасінні Полацкай, Сімяону Полацкаму, Усяславу Чарадзею... Быў замоўлены і ўстаноўлены помнік дойліду Іаану. У гэтыя гады Полацк пабагацеў на мастацкую галерэю з яе унікальнай для Беларусі экспазіцыяй. З'явіўся Дзіцячы музей, пачаўся пераезд факультэтаў Полацкага ўніверсітэта ў гістарычныя муры колішняй Акадэміі...

Полацк стаў для ўсёй Беларусі прыкладам у вяртанні гістарычных назваў у гарадскую тапаніміку: вуліца Леніна зрабілася Ніжнепакроўскай, праспект Маркса атрымаў імя Францыска Скарыны. Быў створаны помнік дойліду Іаану і названы яго імем праспект.

Якраз у гэты час Полацк сапраўды зрабіўся ці не галоўным турыстычным цэнтрам краіны і цалкам заслужана першым атрымаў статус культурнай сталіцы Беларусі. Вядома, усё нельга залічыць у заслугі аднаму толькі мэру. Але бясспрэчна, што безліч праблемаў была «завязаная» на мэры і вырашалася менавіта ім. Упэўнены, што не толькі я, але і ўсе патрыёты Полацка ўспрынялі вестку пра сыход Тачылы з пасады са шкадаваннем.

Я не знаёмы з акалічнасцямі крымінальнай справы. Але спадзяюся: пры яе разглядзе будзе ўлічна тое, што ён зрабіў для Полацка, а значыць, і для усёй краіны. Хацелася б верыць, што Уладзімір Тачыла неўзабаве выйдзе на свабоду».

Тачыла цікавіўся спортам — пры яго падтрымцы быў створаны футбольны клуб «Полацк». Год таму ён заняў пасаду намесніка старшыні ФК «Нафтан». З'яўляецца майстрам спорту па дзюдо — уладальнік 5 дана, двойчы чэмпіён Беларусі па дзюдо сярод ветэранаў.

**КМ**

# Затрыманы галоўны трэнер зборнай па лёгкай атлетыцы?

## Афіцыйнага пацвярджэння няма.

Па інфармацыі газеты «Прэсс-бол», 29 мая аператыўнікі КДБ затрымалі намесніка старшыні ГА «Беларуская федэрацыя лёгкай атлетыкі», галоўнага трэнера нацыянальнай каманды Анатоля Бадуева.

Нібыта яму інкрымінуецца прымус да давання хабару і нямэтавае выкарыстанне спонсарскіх сродкаў.

У КДБ гэтую інфармацыю не пацвердзілі і не абверглі. У Следчым камітэце адзначылі, што не займаюцца такой справай, а таму нічога не ведаюць. Нічога пэўнага не сказалі і ў прэс-службе Беларускай асацыяцыі лёгкай атлетыкі: «Ніякіх каментароў не даем, бо не маем афіцыйных паведамленняў». Адзначылі толькі, што Анатоля Бадуева на працы няма.



Па нашай інфармацыі, Бадуева разам з доктарам каманды сапраўды затрымлівалі, але праз нейкі час выпусцілі.

**Кастусь Матушыч**

# З яго працаў выжываюць адзінкі

**Графіціст Dream ставарае на сценах шэдэўры тут і цяпер.**

Афішная тумба ў Мінску. А на ёй — налепка з Ярмоленкам і надпісам «Слухай бацьку!» Гэта што, такая рэклама? Бачу, побач шансанье Віктар Каліна і надпіс «За пацаноў!» Э, не, гэта не «За Беларусь». Гэта некага дастала непатрабавальная поп-музыка, што апанавала беларускую эстраду. І гэты мастак дзейнічае супраць «абоймы» яе ж зброяй: іх твары, іх выразы. Лёгкі абсурд гэтай творчасці становіцца выяўным, калі яе вырываюць з кантэксту.

Трапляюцца прынты гордага сабой Аляксандра Саладухі (подпіс — «Здраствуй, чужая мілая») і Паплаўская з Ціхановічам на мяжы цэнзурнасці.

Мастак-графіціст хаваецца пад псеўданімам Dream. Ён просіць не фатаграфаваць свой твар — у беларускіх умовах графіці могуць падвесці пад артыкул «псаванне маёмасці».

«Гэта антыподы серыі «Героі Беларусі», — расказвае ён. — Я іх стварыў літаральна за вечар. Вырашыў зрабіць іх у стылі Шэпарда Фэйры — мастака, які перад выбарамі ў ЗША стварыў партрэт Барака Абамы».

Працы Dream'а бачылі многія. Напрыклад, стэнсілы з выявамі Барбары Радзівіл, Ігната Дамейкі, гетмана Хадкевіча, радкі з класічных вершаў на мінскіх сценах — яго работа.

«У мяне была ідэя — ствараць партрэты выбітных беларусаў на вуліцах, якія носяць іх імёны — расказвае мастак. — Але гэтыя






Героі Беларусі на сценах сталіцы.



Выцінанкі на мінскіх вуліцах.

партрэты зафарбоўваюць...» Дурасць, дарэчы. Гэта жывая народная творчасць, дый аздабляе асяроддзе.

Dream штампаваў на сценах і вершы беларускіх класікаў: ад Купалы да Нямлява. «Паўстаньце, рабскія натуры!» і гэтак далей. Праўда, «жывуць» такія творы нядоўга, сістэма байца слова: «З 20—30 вершаў і болей чым 30 «Славутых сыноў...» выжылі дзесяць працаў».

Цяпер Dream захоплены новым праектам: ён спрабуе перанесці на гарадскія сцены тэхніку выцінанкі. «Мы перанеслі на сцяну твор майстрыхі выцінанак — цікава выглядае», — кажа Dream.

Падзяліўся мастак і гарачымі навінамі стрыт-арту. «Размаляваная электрычка — гэта не беларусы зрабілі, — згадаў ён нядаўні выпадак у Мінску, калі ўначы на вагоне з'явіўся агромністы надпіс Bunt. — Прыехала група расійскіх мастакоў».

Сёння, каб мастацтва прыцягвала, трэба ломка шаблону і хуткасць рэакцыі на зменлівы свет: «Ніхто не глядзіць на плакаты, якія заклікаюць захоўваць чысціню — а мы робім альтэрнатыўныя трафарэты, што называецца, «па жэсці», — кажа Дрым.

**Юрась Ускоў**

**Конкурс «Унікальная Беларусь. Новы стыль»**

Ладзіць Street-art супольнасць Signal. Да ўдзелу запрашаюцца вулічныя мастакі і звычайныя грамадзяне з ідэямі. «У працах трэба адлюстраваць тое, што можа вылучыць Беларусь у сучасным глабалізаваным свеце, паказаць тую Беларусь, у якой хацелі б жыць вы і вашыя сябры. Пажадана (але не абавязкова), каб працы і ідэі былі звязаныя з гісторыяй, культурай, традыцыямі Беларусі», — пішуць арганізатары.

Кантакты: signal.streetart@gmail.com, facebook.com/signalmag, vk.com/signal_magazine.

# Статут вернецца ў Беларусь

**Рэшту сумы — 30 тысяч даляраў — ахвяравала кампанія «Альпары».**

Нарэшце ёсць пэўнасць: арыгінал Статута Вялікага Княства Літоўскага вернецца ў Беларусь. На зварот Нацыянальнага банка з просьбай паспрыяць адгукнулася фінансавая кампанія «Альпары».

Яна ахвяруе 30 тысяч даляраў. Менавіта столькі грошай бракавала да поўнай сумы, за якую маскоўскі калекцыянер пагаджаўся прадаць кнігу.

Прыватныя ахвярадаўцы сабралі 76 мільёнаў рублёў. Яшчэ 4500 даляраў унёс прыватны прадпрымальнік з Магілёва, які захацеў застацца невядомым. 100 тысяч расійскіх рублёў выдаў беларус з Расіі Павал Берагавіч — адзін з самых шчодрых мецэнатаў беларускай культуры.

Ідэя студэнта-гісторыка Андрэя Радкова зрэалізавалася дзякуючы энергіі маладога дырэктара Магілёўскага гістарычнага музея Аляксея Бацюкова.

Статут — гэта важная гістарычная рэліквія. Той вывераны закон узгадваў у беларусах выключную законапаслухмянасць, што ператварылася ў нацыянальную рысу.

Статут быў выстаўлены на продаж на электронным аўкцыёне ўладальнікам антыкварнай крамы ў Маскве. Дадзены асобнік ацэнены на $45 тыс. Ва ўсім свеце налічваецца каля 60 асобнікаў Статута, у Беларусі пакуль няма ніводнага з іх.

**Сяргей Гезгала**



**Урачыстая перадача Статута ВКЛ — 7 чэрвеня**

Цырымонія пройдзе ў будынку Нацыянальнага гістарычнага музея ў Мінску (Маркса, 12) а 16.30. Чакаецца, што ў ёй возьмуць удзел прадстаўнікі ўрада, паведаміла кампанія «Альпары».

# Як Хіль трапіў у чорны спіс і як адтуль выйшаў

**Памёр легендарны савецкі спявак Эдуард Хіль.**

4 чэрвеня не стала Эдуарда Хіля. Пра тое, што 77-гадовы спявак меў сур'ёзныя праблемы са здароўем, стала вядома тыдзень таму, амаль выпадкова.

Ён з'явіўся на савецкай эстрадзе ў адзін час з Муслімам Магамаевым. Час вызначыў рэпертуар: ад неафіцыйнага гімна КДБ «С чего начінается Родіна?» да класічнай «Зімы» на музыку Эдуарда Ханка.

Хіль не быў кансерватарам: калі ў канцы 1980-х мода на савецкую эстраду прайшла, ён пачаў гастраляваць з рок-гуртом, спяваў у Парыжы для эмігрантаў — там на яго канцэрты прыходзілі Шарль Азнавур і Мірэй Мацье. Хіль іграў самога сябе ў шалёных перформансах авангардыста Сяргея Курохіна — два негры выносілі закручанага ў дыван Хіля на сцэну, а ён пры гэтым спяваў «Это было недавно, это было давно»...

Аднойчы па просьбе Юрыя Гагарына Хіль праспяваў «Добра быць генералам». Усе прысутныя генералы падняліся і пакінулі залу, а Хіля на год адправілі ў «чорны спіс». Гагарын, ратуючы Хіля, тлумачыў партыйнаму кіраўніцтву, што гаворка ў песні ідзе пра натаўскіх генералаў. На сакрэтным канцэрце для ленінградскай эліты Хіль змусіў партыйных бонзаў падпяваць белагвардзейскую «Вочы чорныя»...



У 2010 папулярнасці Хіля магла пазайздросціць Лэдзі Гага.

Выбух папулярнасці Эдуарда Хіля адбыўся ў 2010 у ЗША: інтэрнэт-хітом стаў яго стары вакаліз «Я вельмі ўсцешаны, бо вяртаюся дахаты», запісаны 34 гады таму. Выявы з «расейскім псіхадэлічным спеваком», якога празвалі Mister Trololo, пачалі штампаваць на майках, ролік на Ютубе сабраў 12 мільёнаў праглядаў. Амерыканскія энтузіясты збіралі подпісы, каб арганізаваць тур Хіля па ЗША. Папулярнасці Эдуарда Хіля ў сакавіку 2010 магла б пазайздросціць Лэдзі Гага. Сам спявак успрымаў нечаканую славу іранічна.

Хіль быў куды больш разняволеным за большасць савецкіх спевакоў, кажа музычны крытык Зміцер Падбярэзскі: «Атрымаўшы оперную адукацыю, ён імкнуўся абмінаць афіцыёз. Разам з Магамаевым яны былі дзёрзкімі ў сваёй творчасці, не ўпісваліся ў рамкі кандовай савецкай патрыятычнай песні. Магчыма таму Хіль і не змог зрабіць вялікую кар'еру на савецкай сцэне. У творчасці Хіля была чутна шчырасць».

**ЮУ**

# Беларуская глыбіня. **Кобрынскі ключ**

Піша **Павел Севярынец**.

*І дам табе ключы
Валадарства Нябеснага:
і што звяжаш на зямлі,
тое будзе звязана
ў нябёсах...
Мацвея, 16:19.*



**Павел Севярынец**
палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Расейскі генералісімус Аляксандр Васільевіч Суvotaраў, аўтар кнігі «Навука перамагаць», за ўсё сваё жыццё здабыў больш за 60 перамог — і, паводле біёграфаў, не пацярпеў аніводнай паразы. Ставіў на імклівасць перамяшчэння, раптоўнасць і шалёны штурм. Біў немцаў, туркаў, мяцежнага Пугачова, палякаў, беларусаў... І ўвосень 1794, разграміўшы галоўныя сілы паўстанцаў Касцюшкі, з неверагоднай лютасцю расправіўся з абаронцамі варшаўскага прадмесця Прага. Дзясяткі тысячаў апалчэнцаў і мірных жыхароў, улучна з жанчынамі і малымі дзецьмі, былі выразаныя і пераколатыя расейскімі цуда-асілкамі.

Казакі ды грэнадзёры Суворава гвалцілі манашак і насілі на піках немаўлятаў. Мірную дэпутацыю ад варшавякаў будучы генералісімус дэманстратыўна прымаў на полі, заваленым трупамі.

Менавіта за гэтую слаўную вікторыю расейскай імператрыцай Кацярынай II Сувораву быў падараваны маёнтак Кобрынскі Ключ і 7 тысячаў душ беларусаў. Добры дзядуля Аляксандр Васільевіч сціпла пражыў тут колькі месяцаў, лячыў свой кашаль, еў кашку, піў квасок, вучыў пеўчых спяваць у царкве і вельмі любіў сам лазіць на званіцу, каб званіць на ютрань. Дагэтуль музей генералісімуса — эпіцэнтр гістарычных экскурсіяў, афіцыйных цырымоніяў і абавязкова месца, куды водзяць прыезджых. Знішчэнне рэштак беларускай дзяржаўнасці, вуліцы, помнікі, расейская мова нашчадкаў тых сямі тысячаў падараваных ды мысленне «ад Брэста да Курыл» — бясспрэчна, шэсцьдзясят-якаясьці там перамога Суворава.

І ўсё колішняе, глыбокае — і кобрынскае сярэднявечча, і княскія часы, і Сапегі, і рэформы Боны Сфорцы, і магдэбургскае права, атрыманае з рук каралевы Ганны Ягелонкі, і грэка-каталіцкі сабор 1626, збіраны тут Язэпам Руцкім, і найстарэйшы ў Беларусі парк, заснаваны ў 1768 знакамітым Тызенгаўзам, і стары замак, знесены ў 1840 імперыяй дзеля пракладкі шашы Масква—Варшава — усё гэта аказалася раптоўна, здзічэлым штурмам, высаджана з галоваў ды сэрцаў тутэйшых, вытаптана і забыта... І, па вялікім рахунку, прапячатаўся ў масавай свядомасці Кобрын, дзе больш нічога і не прыгадваецца, адно баявым суворашскім дробатам, быццам бы па пустым палкавым барабане.

І што з таго, што ў 1852 Кобрынскі Ключ быў прададзены Аляксандру Міцкевічу, брату Адама, што ў 1879 тут нарадзіўся будучы старшыня Рады БНР Пётра Крачэўскі, што ў 2009 ужо ў незалежнай Беларусі тут правялі традыцыйныя беларускія «Дажынкі»?..

Прыедзеш, пройдзешся — горад расейскі ды запалоханы.

Няўжо на стагоддзі наперад усё вырашыла некалькі дзён бязлітаснага і эфектыўнага гвалту?.. Або, калі ставіць пытанне рубам: ці магчыма ўрэшце перамагчы Суворава?

Сем гадоў таму пры сустрэчы з Георгіем Дзмітруком, вернікам і прадпрымальнікам з Кобрына, я і ўявіць не мог, што гэты сур’ёзны і вясёлы дзядзечка з «баптысцкай сталіцы» досыць паспяхова адваёўвае сваю радзіму ў Аляксандра Васільевіча. Па-крысе. Спакойна. Жыццём.

У Кобрыне ў Георгія дом. Грунтоўны — тры паверхі. Гараж. Участак. Нават калі параўноўваць з домам-музеем Суворава, адразу здагадаешся, хто тут насамрэч усур’ёз і надоўга.

А ў доме — сям’я. У Дзмітрукоў — чатыры дачкі і сын. Дом заўжды поўны, шматгалосы — дзеці, браты і сёстры, госці з усяго свету. Бо Георгій — евангельскі вернік. Прадпрымальнік. Кіраўнік Хрысціянскай Дзелавой Ініцыятывы. Сталы ўдзельнік сусветных малітоўных сняданкаў — гэта калі бізнэсоўцы-хрысціяне разам моляцца, ядуць і навязваюць стасункі... Такім чынам Георгій снедаў з Джорджам Бушам і Ангелай Меркель, прэзідэнтамі Літвы і Паўднёвай Карэі...

Царква Георгія — маладая і зболышага моладзевая. Шыкоўны хор праслаўлення, што выконвае класічныя хрысціянскія гімны. У сваёй утульнай хатняй музычнай студыі Георгій запісвае і сваіх дачок, і беларускіх выканаўцаў з наваколля.

Георгій — сустаршыня Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Ягоная Кобрынская суполка — з наймацнейшых у Беларусі. Менавіта пад Кобрынам, у Хідрах, працуе адзін з 12-ці афіцыйна абраных дэмакратычных дэпутатаў мясцовых саветаў — хадэк Віктар Бардзюг. На маіх вачах калісьці цалкам расейскамоўныя пратэстанты пачынаюць размаўляць, спяваць і маліцца па-беларуску — і вось ужо месца Суворава займаюць Мікалай Радзівіл Чорны, Лукаш Дзекуць-Малей, Антон Луцкевіч.

Калі Георгій даведаўся, што на «хіміі» ў Купліне няма гарачай вады — прывёз у спецкамендатуру 300-літровы шведскі бойлер (праўда, начальства дагэтуль не наважылася ўсталяваць «хрысціянска-дэмакратычны» падарунак)...

Неяк у адной з рэстарацыяў Кобрына Дзмітруку прапанавалі «катлету па-суворaўску». «А вы ведаеце, хто такі Суворaў і з каго ён тут катлеты рабіў?..» Пасля слоўнай сутычкі з адміністратарам і кароткай краязнаўчай лекцыі Суворaў быў ганебна выгнаны з меню.

Георгій — адзін з тых, хто разам з фронтаўцам Алесем Мехам у 2007 выступіў супраць будаўніцтва ў Кобрыне Суворaўскага храма. У выніку агульнабеларускай кампаніі абурэння новай праваслаўнай царкве надалі імя Раства Хрыстовага.

Пачынаючы з 1990-х, Георгій з сябрамі дастаўляе на Берасцейшчыну заходнюю гуманітарную дапамогу. Бясплатна рабіць дабро — магчыма, гэта працуе не так моцна, як Суворaўская разня, але Творца сусвету і тыя, хто з Ім, чамусьці выбіраюць для перамогі менавіта гэткі шлях.

Кобрынскі ключ — сакрэт перамогі. Бітвы ў галовах і сэрцах беларусаў цяпер ідуць не менш зацятыя і жорсткія, чым тады, у эпоху Суворава і Касцюшкі. Душы, калісьці ўскрытыя штыхом ды школай, крывавяць штодня. Супрацьстаяць гэтай зброі і адстойваць свой дом, як і 200 гадоў таму, надзвычай цяжка.

Але Дзмітрукі ўсміхаюцца. Яны яўна больш усмешлівыя, чым суровы Суворaў. Яны ўпэўненыя, таму што вераць.

Бо поўная беларуская перамога — гэта калі сэрца ўспорвае Бог.

*Куплін*



PHOTO BYMEDIA.NET

**У доме Дзмітрука адразу здагадаешся, хто тут насамрэч усур’ёз і надоўга**

## Для каго прыдумалі такі расклад Гарадскіх ліній?

Чытач ставіць пытанне: чаму **няма электрычак**, якія б прыходзілі ў Мінск а 8.30 і выязджалі а 18.30?

У «НН» прыйшоў ліст ад жыхара Заслаўя, які падпісаўся Сяргей К. Адначасова ён даслаў свой зварот начальніку Беларускай чыгункі Анатолю Сіваку.

«Паважаны Анатоль Аляксандравіч!

Многія жыхары горада працуюць у Мінску. Гэтак жа як і ў Вас, у большасці з іх працоўны графік з 09.00. Толькі вязе іх да працоўных месцаў не службовы аўтамабіль з персанальным кіроўцам, а электрычка.

Шмат сказана чыноўнікамі і напісана ў прэсе аб гарадах-спадарожніках, але электрацягнікоў, якія прыбываюць на вакзал да 08.30 і едуць у зваротным накірунку ў 18.30, проста няма.

Праект «Гарадскія лініі», не хаваю, жыхароў горада парадаваў. Аднак адпраўленне ў 07.21 і 08.53, скажыце, для каго?

Студэнты не паспяваюць, людзям, якія працуюць у Мінску, застаецца альбо прыязджаць на гадзіну раней, альбо на гадзіну спазняцца.

Увечары такая ж сітуацыя: працоўны дзень, паважаны Анатоль Аляксандравіч, канчаецца ў 18.00. І вось зараз чалавек сутыкаецца з праблемай вяртання дамоў. Электрацягнік «Гарадскіх ліній» адпраўляецца ў 18.22 (не ўсе паспяваюць) і ў 19.10 (трэба чакаць каля 40 хвілін).

Дык для каго, паважаны Анатоль Аляксандравіч, закуплены дарагія цягнікі, праведзена замена палатна, пабудаваны чыгуначныя станцыі, калі мы ездзім на маршрутным таксі?

З павагай, карэнны жыхар Заслаўя Сяргей К.»



* * *

**Ад Рэдакцыі**

Свае пытанні і прапановы па арганізацыі працы руху электрычак пасажыры могуць даслаць на электронны адрас Беларускай чыгункі. Як гэта зрабіць, можна даведацца на сайце БЧ у раздзеле «Звароты грамадзян».

## Беларусаў зноў прынізілі?!

Гэтую гісторыю можна было б **назваць казачнай**.

«Але ў жыцці здараюцца цуды і нават існуюць сапраўдныя прынцы! У невялікім расійскім гарадку жыла-была дзяўчына, у лёсе якой да дваццаці гадоў адбылося нямала бедаў. Яна вырасла без маці, а пазней страціла і бацьку. І прыйшлося ёй жыць з нядобрай мачахай і зводнай сястрыцай. Але Надзя любіла бацьку і імкнулася ажыццявіць іх супольную мару. І вось аднойчы...»

Менавіта так тэлеканал «Расія-1» анансуе фільм «Гатэль для папялушкі». Дзеянне адбываецца нібыта ў невялікім расійскім гарадку, а калі прыгледзецца, бачыш родны Мінск. Траецкае, Няміга, Кастрычніцкая — і «невялікі расейскі гарадок»? Дажылася Беларусь...

**Серж**

# Еўрасаюз без ружовых акуляраў

Аб'яднаная Еўропа — рай ці пекла? Журналісты «Нашай Нівы» пагутарылі з жыхарамі краінаў, якія далучыліся да Еўрасаюза.

Журналістка Вольга Гардзейчык радая, што яе дзеці выхоўваюцца ў Польшчы.



### «Нельга навесіць на Еўрасаюз усе надзеі і мары»

Рытас Нарвідас крочыць гулкімі калідорамі былога будынка НКВД на Лукішскім пляцы ў Вільні. Цяпер тут — Цэнтр па вывучэнні генацыду і супраціву жыхароў Літвы, а Рытас — кіраўнік аддзела спецрасследаванняў.

«З маленства ў сям'і я размаўляў па-літоўску і заўжды адчуваў, што мая радзіма — Літва», — кажа Рытас. Настальгіі па СССР ён не адчувае.

Болей за 15 гадоў Рытас пражыў за межамі Літвы, у Латвіі. Але пры канцы 1980-х адчуў: надышоў час вяртацца. І не пашкадаваў.

«Літва для мяне заўжды была нечым святым, — кажа Рытас. — Мяне здзіўляла, калі я прыязджаў ў Літву і бачыў п'яніцу пад плотам. Я думаў: няўжо такое магчыма ў Літве? Я ідэалізаваў сваю радзіму».

У складзе Еўрасаюза літоўцы далёка не ў першых шэрагах, заўважае Рытас. Яны ўжо не «захад», а «ўсход», з якога едуць у больш заможныя краіны Еўропы па лепшую долю. «Нельга на Еўрасаюз навесіць усе свае надзеі і мары, — мяркуе ён. — Еўрасаюз не вырашыць усіх нашых праблемаў».

### «Галоўная нацыя не павінна ціснуць»

Сяргей Еўтухоў нарадзіўся ў Магілёве, а знайшоў свой дом у Вільні. Дзесяць гадоў адпрацаваў інжынерам-авіятарам, а потым адкрыў у сабе талент мастака. Не размаўляе па-літоўску, але знайшоў месца ў літоўскім культурным жыцці.

«Я не змог бы стацца мастаком, калі б жыў не ў Літве, — кажа Сяргей. У гэтай краіне ён адчуў творчую свабоду.

Развал Савецкага Саюза Сяргей Еўтухоў перажываў досыць балюча. Зрэшты, «вялікі злом» падштурхнуў Сяргея кінуць авіяцыю і заняцца творчасцю.

Сябры не здолелі пераканаць яго вывучыць літоўскую мову. «Канечне, гэта мінус для інтэлігентнага чалавека, але я з гэтым мінусам жыву даўно», — прызнаецца ён. «Трэба паважаць кожнага чалавека, галоўная нацыя не павінна ціснуць», — лічыць Сяргей.

Для Сяргея Еўрасаюз — гэта адчыненыя межы, магчымасць вандраваць са сваімі выставамі па Еўропе.

«Я, напэўна, яшчэ так і не знайшоў свой дом, — разважае Сяргей. — Хочацца быць грамадзянінам Францыі ці Швейцарыі. Нармальны чалавек не хоча ўвесь час біцца за сацыяльны статус. Хочацца, як яны: хадзіць па сваім вінаградніку і спатыкацца шлёпанцамі аб свежае карэнне».

### «Калі чалавеку цікава жыць — ён жыве правільна»

Распад СССР зрабіўся для віленскага інжынера Валера Аносава асабістай трагедыяй: згубіў працу, перспектываў ніякіх, выжывай як хочаш. Выратавала хобі — калекцыянаванне джазавай музыкі. Цяпер Валер— уласнік рэспектабельнай джазавай крамы Thelonious у старажытнай мураванцы ў старой Вільні.

«Хобі, якое выцягвала грошы з сям'і, цяпер прыносіць прыбытак», — кажа Валер.

З аднаго боку, уваход Літвы ў Еўрасаюз Валер лічыць вялізным плюсам: лягчэй наводзіць сувязі з замежнымі калегамі, паменшала праблемаў з мытняй. З іншага боку, прасцей працаваць, калі ёсць дэфіцыт, а вось адкрытыя межы і інтэрнэт-прастора змянілі музычны бізнэс да непазнавальнасці. Ды і многія сталыя кліенты з'ехалі з Літвы на заробкі.

«Калі чалавек знайшоў любімую справу — гэта вялізарнае дасягненне, — кажа Валер. — Калі чалавеку цікава жыць — гэта знак, што ён жыве правільна».

### «Грэх скардзіцца!»

Па-еўрапейску спакойны і самавіты Леанід Нікалаеў — «рускі эстонец», жыве ў Тарту. Мае маленькую дачку, працуе ў кампаніі, якая займаецца продажам гадзіннікаў і ювелірных вырабаў.

«Пра непрыязнасць да рускіх я толькі ў газетах чытаю», — кажа Леанід.

Звычайныя эстонцы кажуць пра рускіх толькі станоўчае, заўважае мужчына. Маўляў, рускія — добрыя сябры і выдатныя супрацоўнікі. А вось сярод палітыкаў рускіх хваліць не прынята.

«Не хацелася б вінаваціць ва ўсім нашае кіраўніцтва, — кажа Леанід, — але для многіх гэта — «руская карта». Каб сабраць патрэбную колькасць галасоў, трэба стварыць страх, што прыйдуць рускія і ўсё папсуюць, а нашыя палітыкі нас абароняць».

«Я б не сказаў, што ў нас усё вельмі добра, але грэх скардзіцца, — разважае Леанід. — Краіна і людзі пачалі ўсё болей актыўна працаваць і зарабляць. Уступленне ў ЕС гэты працэс проста паскорыла, я так думаю».

Далёка не кожны малады эстонец захоча застацца дома, калі можна лёгка з'ехаць у Швецыю ці Нарвегію. Аднак Леанід вырашыў не гнацца за грашыма:

«Мы таксама абдумвалі сям'ёй магчымасць з'ехаць і пачаць жыць па-новаму. Але праблемы побытавыя аднолькавыя паўсюль. Магчыма, узровень жыцця там іншы, але калі прыкласці намаганні, то можна і тут жыць».

### «Адчуванне такое, што палякі засвойваюць Месяц»

Утульная сучасная кватэра ў спальным раёне Варшавы. Дзяўчынка грае на скрыпцы, а яе маці акампануе на сінтэзатары. Сямейная ідылія. Але ці сапраўды задаволеная сваім жыццём на чужыне журналістка Вольга Гардзейчык?

Нарадзілася яна ў Калінкавічах на Гомельшчыне, пасля школы паступіла ў Мінск на філфак БДУ. У 90-я ўлілася ў вір «адраджэнскай дзейнасці». Працавала ад моманту ўзнікнення і да закрыцця на «Радыё 101,2» у Мінску, якое потым зачынілі ўлады. Вольга выйшла замуж за польскага журналіста і вось ужо 12 гадоў як стала жыве ў гэтай краіне.

«Адчуванне такое, што палякі засвойваюць Месяц, — кажа Вольга. — Увесь час нешта будуецца. Не было дарогі — і вось яна ёсць! Не было маста — а вось ужо пяць стаіць! На вачах краіна змяняецца».

Вольга працуе на тэлеканале «Белсат» у Варшаве, гадуе дзвюх дачок — Ганну і Агату. Яна цешыцца, што дзеці маюць магчымасць вандраваць па ўсёй Еўропе. «Мяне пасля савецкага дзяцінства гэта ўводзіць у пэўны ступар. А іх — не!» — смяецца Вольга.

Вольга называе сябе адначасова патрыёткай і Польшчы, і Беларусі. Зрэшты, з уступленнем у ЕС пашырыліся і «межы патрыятызму», лічыць яна. «Мне не трэба думаць, што дзіцяці трэба купляць кватэру, калі яно будзе вучыцца ці ствараць сваю сям'ю. А можа, яна ў Галандыі будзе вучыцца? Можа, у Берліне, бо яна фанатка ровара? Ці ў Чэхіі, бо закахаецца ў чэшскую літаратуру?»

### «Еўрапейскі патрыятызм — гэта шляхетная канкурэнцыя»

Прымружыўшы вочы, малады інжынер з Варшавы Томаш Бладынец пагладае ўгару. Ранішняе сонца грае промнямі на люстраной сцяне новазбудаванага хмарачоса.

«Варшава маёй маладосці была вельмі сумным, шэрым і безнадзейным горадам, адным з самых брыдкіх у Еўропе», — кажа Томаш.

Аднак цяпер горад імкліва змяняе сваё аблічча. Жвава развіваецца інфраструктура. Пабудаванае «заходняе кола», ідзе будоўля другой лініі метро, вакзалаў. Але найважнейшыя змены адбыліся ў галовах людзей.

«Гэта бачна на іх тварах, — дзеліцца ўражаннямі Томаш. — Людзі больш аптымістычныя, маюць больш веры, што будучыня будзе добрая».

Калі ён выбраў сабе прафесію дарожнага інжынера, сябры круцілі пальцам ля скроні, узгадвае Томаш. «Казалі мне: ты што! У Польшчы добрых дарог ніколі не было і не будзе, застанешся без працы!» Аднак пасля ўступлення ў Еўрасаюз краіна атрымала вялікія грошы на развіццё гэтай галіны.

«Цяпер у Польшчы будуецца найбольш дарог ва ўсёй Еўропе. Кампаніі з усяго свету змагаюцца, каб атрымаць тут кантракт», — кажа хлопец.

Палякі баяліся, што страцяць у еўрапейскім альянсе нацыяў сваю самабытнасць. Але атрымалася наадварот, мяркуе Томаш. Не толькі палякі змацавалі сваю нацыянальную ідэнтычнасць, але і малыя культуры іх краіны займелі шанец для развіцця:

«Узмацнілася тоеснасць як палякаў, так і розных этнічных групаў у Польшчы. Напрыклад, з'явіліся сродкі на пераклады кніг на мову польскіх горцаў».

Томаш адчувае сябе еўрапейцам і палякам адначасова. А яшчэ — выдатна гаворыць па-беларуску. Вывучыў мову па песнях ды кнігах.

Багацце Еўрасаюза — у разнастайнасці, лічыць Томаш: «Сучасны еўрапейскі патрыятызм — гэта шляхетная канкурэнцыя, а не канфлікт. Важна, каб мы прыгожа адрозніваліся адзін ад аднаго».

**Настасся Шамрэй, Аксана Рудовіч, Таццяна Гаўрыльчык**



Жыхар Тарту Леанід Нікалаеў: Пра нелюбоў да рускіх чытаю толькі ў газетах.



Мастак Сяргей Еўтухоў кажа, што пакуль так і не знайшоў свой дом.



Архівіст Рытас Нарвідас: Літва для мяне заўжды была нечым святым.

# Выстава грызуноў



**9—10 чэрвеня ў галоўным павільёне Палаца спорту (пр.Пераможцаў,4)** пройдзе выстава грызуноў і зайцападобных. Заяўляюцца наступныя жывёлінкі: лугавая сабачка, пацукі, афрыканская пясчанка, мангольская пясчанка, тлустахвостая пясчанка, бурундук, соня афрыканская, сірыйскі хамяк, кактусавы хамяк, мышавідны хамяк, марскія свінкі, палёўкі, дэгу, шыншыла і інш. У праграме розныя конкурсы і прызы. **Час правядзення ад 10:00 да 18:00.**

## ФУТБОЛ

### Беларусь — Літва



**7 чэрвеня на стадыёне «Дынама»** адбудзецца таварыская сустрэча паміж нацыянальнымі зборнымі Беларусі і Літвы. Пачатак а 19:00.Білеты каштуюць 10 і 20 тысяч рублёў.

### 13 тур

**У панядзелак 11 чэрвеня** пройдуць матчы чаргова тура Чэмпіяната Беларусі па футболе:
«Белшына» (Бабруйск) — БАТЭ (Барысаў);
«Мінск» — «Нёман» (Гродна);
«Славія» (Мазыр) — «Дынама» (Мінск);
«Гомель» — «Шахцёр» (Салігорск);
«Нафтан» (Наваполацк) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна).

## ІМПРЭЗЫ

### Цукеркавы фэст

**16 чэрвеня з 14-й у мястэчку Івянец** пачнецца цукеркавы фэст. Вас чакаюць пошукі івянецкага скарбу і таемнай цукерыны шчасця, віктарыны, дэгустацыя цукерак, майстар-класы народнага кухарства. А таксама рыцарскія бойкі і змагарныя пагоні, шляхецкія пацехі, сярэднявечныя латарэі, конна-спартовае шоу ўланаў, вогнішча і фаершоу…

## КАНЦЭРТЫ

### Covenant

**9 чэрвеня а 18-й у Re:Public (Прытыцкага, 62)** — канцэрт шведскага гурта Covenant, аднаго з заснавальнікаў стылю future-pop.

### Apple Tea

**13 чэрвеня а 19-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — канцэрт джазбэнда Apple Tea.

### Лепрыконсы

**7 чэрвеня ў кавярні «Госці» (пр.Незалежнасці, 24)** будзе граць гурт «Лепрыконсы». Пачатак а 21:00.

### Канцэрт-трыб'ют The Beatles

**8 чэрвеня а 19-й у Маладзёжным тэатры эстрады (Маскоўская, 18а)** — канцэрт-трыб'ют The Beatles. Возьмуць удзел The Apples, Gentle Beat і Feedback.



### «Мачэтэ»

**8 чэрвеня ў клубе Re:Public** гурт «Мачэтэ» прадставіць альбом «Радзіма свету». Гэта першы канцэрт гурту ў Беларусі.



### Беларускі абстракцыянізм

**Да 19 чэрвеня ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Беларускі абстракцыянізм» — першая маштабная выстава, прысвечаная абстрактнаму мастацтву Беларусі. Паказаныя творы ад 1920-х гадоў да цяперашняга часу.

## ВЫСТАВЫ

### Ad librum

**Да 15 чэрвеня ў «Кніжным салоне» (Калініна, 5)** працуе выстава твораў Міколы Купавы Ad librum, прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння Я.Купалы і Я.Коласа.

### Мастак і горад

**7 чэрвеня а 18-й** у рамках праекта «Мастак і горад» 18 рэпрадукцыяў прац Марка Шагала аформяць выставу на цэнтральнай плошчы Я.Коласа. Кожная рэпрадукцыя будзе суправаджацца гісторыяй стварэння.

### Веткаўскія абразы XVIII–XIX стст.

**Да 23 ліпеня ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Веткаўскія абразы XVIII–XIX стст. у шытых бісерных акладах». На выставе паказана 50 прадметаў: абразы ў акладах, асобныя бісерныя оклады на абразы.

### musik + X

**Да 30 чэрвеня ў Мінскім палацы дзяцей і моладзі (Старавіленскі тракт, 41)** працуе выстава «musik + X». Гэта фестываль, дзе кожны аматар сучаснай музыкі знойдзе штосьці на свой густ. У чатырох залах прадстаўленыя чатыры музычныя напрамкі: поп-музыка, індзі-рок, хіп-хоп ды тэхна, а таксама звязаная з імі атрыбутыка. Галоўныя элементы выставы — вялікія праекцыі, дзе «грае музыка».

## ТЭАТРЫ

### 7 чэрвеня

**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Оперы і балета** — «Жызэль, альбо Вілісы»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»

### 8 чэрвеня

**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Беларускай драматургіі** — «Чайка»
**Оперы і балета** — «Жызэль, альбо Вілісы»

### 9 чэрвеня

**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»

### 10 чэрвеня

**Лялек** — «Марозка»
**Оперы і балета** — «Аіда»

### 11 чэрвеня

**Оперы і балета** — «Сільфіда»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»

### 12 чэрвеня

**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»
**Юнага гледача** — «Вандраванне ў княства сноў»

### 13 чэрвеня

**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»

### 14 чэрвеня

**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Юнага гледача** — «Дорога на Віфлеем»

### 15 чэрвеня

**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»

## КІНО

### Крыж супраць Чужых

**Праметэй (Prometheus)**
ЗША, 2012, каляровы, 3-D, 124 хв.
**Рэжысёр:** Рыдлі Скот
**Ролі выконваюць:** Нумі Рапас, Майкл Фасбэндэр, Шарліз Тэрон, Гай Пірс, Логан Маршал-Грын, Ідрыс Эльба
**Жанр:** Фантастыка
**Адзнака:** 6 (з 10)

Навукоўцы адпраўляюцца ў глыбіні космасу, каб разгадаць таямніцу з'яўлення чалавека. Але тое, з чым сутыкнецца экіпаж «Праметэя», ставіць пад пагрозу жыццё чалавечай расы.

Карціна Рыдлі Скота — папярэднік легендарнага «Чужога». У 1979 рэжысёр стварыў адзін з самых страшных шэдэўраў у гісторыі кінафантастыкі. Істоты з падвойнымі сківіцамі і кіслатой замест крыві палохалі публіку 30 гадоў.

У глыбінях космасу разгортваецца метафізічная барацьба. На адным баку барыкады — монстры і небяспечныя тытаны, сцерва-бландзінка, бяявы робат. На другім баку — гераіня з крыжом у руках і вераю ў сэрцы.

І не варта загадзя сыходзіць з карціны: самыя эфектныя кадры аўтар прыбярог пад заслону.

**Андрэй Расінскі**



**Фотафакт**




**Пакаленне аднаго прэзідэнта**

Партрэт выпускніцы ў самай звычайнай школе ў горадзе Жодзіне.

У сваё дарослае жыццё выходзіць першае пакаленне амаль паўналетніх беларусаў, якія нарадзіліся і выраслі ў час прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі. Фатограф «НН» распачынае серыю рэпартажаў праекта «Пакаленне аднаго прэзідэнта».

## Ствараецца канал дакументальнага кіно «Мінск 24 ДОК»

Яго расійскі аналаг перасталі паказваць пасля дэманстрацыі «Звычайнага прэзідэнта».

Найбуйнейшы аператар кабельнага вяшчання Мінска МТІС 1 чэрвеня пачаў вяшчанне канала дакументальнага кіно «Мінск 24 ДОК».

«Гэта новы тэлеканал найлепшай дакументалістыкі сучаснасці. У эфіры канала фільмы, якія атрымалі ўзнагароды міжнародных фестываляў, праекты вядомых журналістаў, якім апладзіравалі найбуйнейшыя кіназалы свету, і перадачы пра самае важнае сёння. Увазе гледача новага тэлеканала будуць прадстаўлены рубрыкі: злабадзённыя палітычныя і эканамічныя падзеі («Паліт»), экалогія планеты («Эка»), сучаснае мастацтва («Арт»), запамінальныя гісторыі з чалавечага жыцця («Людзі») і погляд замежных журналістаў на постсавецкую рэчаіснасць («Іно»)», — паведамляецца на сайце кампаніі.

Трансляцыя расійскага канала «24ДОК», на базе якога цяпер будзе створаны мінскі аналаг, была спыненая аператарам «Космас-ТВ» у маі 2008 пасля дэманстрацыі фільма «Звычайны прэзідэнт» рэжысёра Юрыя Хашчавацкага.

Выглядае на тое, што спачатку «Мінск 24 ДОК» будзе капіяваць расійскі канал. Прынамсі, пра гэтага кажа амаль аднолькавая праграма перадач абодвух тэлеканалаў. Гэта серыялы «Расійская імперыя» і «Ад Масквы да Магадана», фільмы «9/11. Афганістан», «Сакрэтныя матэрыялы. Загадкі і парадоксы апошніх Раманавых» і іншыя.

Разам з тым, неўзабаве ў эфіры мусяць з'явіцца і праграмы айчыннай вытворчасці. У той жа час выпуск навінных перадач уласнай вытворчасці пакуль не прадбачыцца.

**Ягор Марціновіч**

# У кінатэатры «Ракета» адкрылася зала для прагляду арт-хаўса

Blu-Ray і крэслы-мяшкі ў дадатак.

Новая зала запрацавала яшчэ ў канцы мая. Тут усяго 46 месцаў, затое, як кажуць спецыялісты, створаныя найлепшыя ў горадзе ўмовы для камфортнага прагляду кіно.

Як паведаміў кіраўнік праекта Cinemascope Георгій Глік, рэпертуар будзе складацца з класікі сусветнага кіно, а таксама сучасных фільмаў катэгорыі арт-хаўс. «Прыхільнікам некамерцыйнага кіно будуць прапанаваныя вельмі камфортныя ўмовы для інтэлектуальнага вольнага часу: невялікая зала ў шэра-блакітных тонах, мяккія канапы і арыгінальныя крэслы-мяшкі, — заявіў ён. — Паказваць кіно будзе новы японскі відэапраектар, здольны прайграваць не толькі HD-DVD-дыскі, але і Blu-Ray, што забяспечыць выдатную якасць выявы».

Па сутнасці, сёння гэта адзінае месца ў Мінску, дзе можна паглядзець кіно не для ўсіх. Адзіны нюанс — размешчанае яно далёка не ў цэнтры.

**«Мінск-Навіны»**



# У Мінску з'явілася першае электроннае табло на прыпынку

Яго ўстанавілі каля «Чэрвеньскага рынку».

Электроннае табло з'явілася на прыпынку «Чэрвенскі рынак» у бок Партызанскага праспекта. Цяпер пасажыры ведаюць, колькі засталося чакаць тралейбуса ці аўтобуса патрэбнага маршруту.

Пакуль навінка працуе ў тэставым рэжыме і даваць яе дадзеным на ўсе сто працэнтаў транспартнікі не рэкамендуюць. Аднак журналісты ўжо паспелі пераканацца асабіста — паказанні абсалютна дакладныя!

Расклад загружаецца аўтаномна. Ад білетнага кіёска падведзена толькі электрасілкаванне.

У выпадку поспеху тэставай эксплуатацыі ўсталяваць такія ж электронныя табло могуць на ўсіх прыпынках грамадскага транспарту ў Мінску — зразумела, калі будзе адпаведнае фінансаванне.

Цікава, што навінка выклікала шчырае здзіўленне нават білетных кантралёраў, якія прыехалі на прыпынак, — па іх словах, яны ўбачылі такі цуд тэхнікі ўпершыню.

**Уладзімір Чудзянцоў, tut.by**




## Сцісла

### «Мінсктранс» адкрывае аўтобусны рэйс да Сімферопаля

Хадзіць аўтобус будзе раз на тыдзень, у суботы. Адпраўленне з Мінска ў 19.30, а прыбыццё ў Сімферопаль у 20.05 у нядзелю. Выезд назад у панядзелак у 08.55, прыбыццё ў Мінск у аўторак у 09.30. Кошт квітка складзе 415 тысяч у адзін бок і 788,5 тысячы рублёў у абодва бакі.

### У Мінску запусцяць экскурсійны аўтобус па «прэзідэнцкай трасе»

На базе аўтобуса № 1 «Чыгуначны вакзал — Вяснянка» будзе рэалізаваны праект «Мінск экскурсійны». Гэты аўтобус ідзе ўздоўж праспекта Пераможцаў, так званай «прэзідэнцкай трасы». Кожны чацвёрты маршрут будзе суправаджацца англамоўнай версіяй экскурсійнага суправаджэння.

### Станцыя метро «Пятроўшчына» ці «Медуніверсітэт»?

Калектыў Медыцынскага ўніверсітэта просіць перайменаваць будучую станцыю метро «Пятроўшчына». У звароце, накіраваным у Мінгарвыканкам, прапануецца замяніць назву на «Медыцынскі ўніверсітэт», які знаходзіцца побач са станцыяй.

### Графік пераносу працоўных дзён у 2013 складуць загадзя

У другім паўгоддзі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны распрацуе праект пераносу працоўных дзён на некаторыя суботы.

### Музей габрэяў адкрыўся ў сінагозе ў Гродне

Музей заснавала група гродзенскіх прадпрымальнікаў ТАА «Музей на Траецкай». У ім сабраныя экспанаты, якія сведчаць аб габрэйскай гісторыі і культуры горада. Наведнікі музея змогуць даведацца, як жылі, чым займаліся габрэі ў Гродне, пачынаючы з XII стагоддзя і па сёння. Частку экспанатаў складаюць дыскі з фільмамі, фатаграфіі старога Гродна, жыццяпісы вядомых габрэяў.

**ЯМ**



БЕЛАПАН

1 чэрвеня ў мінскім парку імя Горкага прайшоў масавы флэшмоб «Мамачка, пакармі мяне цыцкай!» Мэта акцыі, арганізаванай кампаніяй «Беллакт», — падтрымаць жанчын, якія кормяць грудзьмі, дапамагчы перамагчы сарамлівасць.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Вядучая «МузТБ» Ганна Бонд прыйшла на Парад бландзінак 31 мая, каб пахаваць парык бландзінкі. Бонд таксама адзначыла, што сапраўдных бландзінак у Беларусі не засталося, толькі фарбаваныя.**





**Конкурс прыгажосці ў СПК Прагрэс-Верцялішкі (Гродзенскі раён). Пераможца атрымала параварку, мільён і пуцёўку на Азоўскае мора.**



**У фільме «Viva Bel@rus», створаным па матывах жыцця Франака Вячоркі, невялікую ролю атрымаў і сам Франак. «Я сыграў простага беларускага мянта», — адзначае ён.**

## Анекдоты

* * *

Дзяцінства — гэта калі кот старэйшы за цябе.

* * *

Настаўніца пытаецца:

— Янка, як называецца жывёла, якая заўсёды пасля ежы вылізвае языком сваю талерку?

— Тата! — адказвае Янка.

* * *

Беларусы нават Пуціна з аўтазакам дамоў праваджаюць.

* * *

Статут вернецца ў Беларусь. А Канстытуцыя?

* * *

Ледзьве не спазніўся на працу праз гравітацыйную анамалію — сіла прыцягнення між мной і ложкам раптоўна ўзрасла настолькі, што ледзьве расплюшчыў вочы...

* * *

– Любы, што мне ўзяць з сабой на мора, каб усе звярталі на мяне ўвагу?

– Санкі!

* * *

– Тата, гэтыя камары не даюць мне заснуць.

– Сынок, выключы святло, заплюшчы вочы і паспрабуй заснуць.

Сын выключыў святло, раптам заўважыў светлячка і крычыць:

– Тата, цяпер яны мяне з ліхтарыкам шукаюць!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Чарняўка. Барысаўскі павет.** На гасцінцы паміж вёскамі Пыжычы і Ухвала знайшлі забітых двух купцоў-жыдоў: ляснога купца Лейбу Кагана і млынара з Ухвалы Лейбу Акуня. У Кагана была прастрэленая галава, Акуня зарэзалі складаным ножыкам. Кішэні абодвух знайшлі вывернутымі. Чатырох падазраваных сялян арыштавалі.

**«НН». №21. 1912.**

**Беларусь — адна з 11 краін свету** (Вануату, Кіргізія, Латвія, Малдова, Науру, Саламонавы астравы, Таджыкістан, Узбекістан, Філіпіны), якая не купіла правоў на трансляцыю мундыяля. БТ спадзявалася вырашыць гэтую праблему ў звыклы спосаб: «скрасці карцінку» на якім расейскім канале. Думалі, што расейцы не знойдуць тэхнічных магчымасцей перакрыць сігнал. А расейцы мажлівасць адшукалі.

**«НН». №21. 2002.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 05.06.2012.
Замова № 2303.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12